# Івонка Сурвілла: 25 сакавіка выходзьце сотнямі тысяч на вуліцы


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №10 (167) 6 САКАВІКА 2000 г.


**Адкрыты ліст Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Івонкі Сурвіллы да беларускага народу**



Дарагія мае браты і сёстры — беларусы!

Зьвяртаецца да Вас Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — той Рады, якой беларускі народ у 1917 годзе даручыў свой лёс і якая абвесьціла 25 сакавіка 1918 году незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. На долю Рады БНР выпала цяжкая адказнасьць бараніць гэтую незалежнасьць ды змагацца за яе ўсімі даступнымі сродкамі.

Рада БНР выбрала мяне на становішча старшыні ў 1997 годзе. Упершыню выбрала жанчыну, сіла якое — дазволю сабе сказаць словамі нашага вялікага Янкі Купалы — у «любові да свае Радзімы, да свайго народу».

Напярэдадні нашага Дня Волі, дня, які нашыя суродзічы ўва ўсім сьвеце сьвяткуюць як найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята — нашае сьвята годнасьці, бо ж у гэты дзень народ наш абвесьціў сьвету, пасьля доўгай няволі, што ён таксама хоча жыць вольным і незалежным ды быць гаспадаром у сваёй хаце — хачу падзяліцца з Вамі маім болем і маёй трывогай за Вашу будучыню і за будучыню Вашых дзетак і ўнукаў. Бо край наш знаходзіцца зноў у вялікай небясьпецы. Зноў хочуць адабраць яго ў Вас, зьняволіць Вас.

Сталін сваім часам нішчыў наш народ голадам, арыштамі і ссылкамі ў Сібір. Цяпер ягоныя пасьлядоўнікі Пуцін і Лукашэнка, пры дапамозе хлусьні і паліцыйнай сілы, намагаюцца паставіць Вас ізноў на службу «стратэгічным інтарэсам» расейскай імпэрыі. Ва ўмовах зманапалізаваных сродкаў масавае інфармацыі, лукашэнкаўскі рэжым зацягвае Вас у так званую інтэграцыю з Расеяй. Але адзіным вынікам гэтае прадажнае палітыкі будзе Вашае зьбядненьне, ды ў канцы зьнішчэньне Вас як нацыі, як народу.

Дарагія мае браты і сёстры — беларусы, дарагая моладзь, любыя дзеткі (з тысячамі якіх я мела нагоду спаткацца тут, у Канадзе)! Першы раз зьвяртаюся да Вас з адкрытым лістом, бо хачу, каб Вы мяне пачулі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі робіць усё, што можа, каб памагчы Беларусі перажыць цяперашні крызіс ды выйсьці зь яго незалежнай, свабоднай і заможнай краінай. Але бяз Вашага ўдзелу мы ня выратуем Бацькаўшчыны. Трэба, каб і Вы паказалі сьвету, што Вы ведаеце вартасьць волі, што ня хочаце быць прыладай маскоўскага імпэрыялізму й праліваць за яго сваю кроў.

Пры развале савецкай камуністычнай імпэрыі Бог даў нашаму народу вялікі падарунак — Волю. Такія цуды ў гісторыі не паўтараюцца. Дык не дапусьцім жа, каб гэты падарунак пайшоў намарна. Беражэце гэты скарб Ваш. Пакажэце сьвету, што беларускі народ яшчэ жыве. У Дзень Волі 25 сакавіка выходзьце сотнямі тысячаў на вуліцы. Ідзеце са сьцягамі, сьвечкамі і абразамі. З малітвай да Бога, каб ён паслаў «праменьні Свае хвалы» на наш край і народ!

Жадаю Вам сілы, мужнасьці, вытрываласьці.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла,*
*Старшыня Рады БНР*

## ЗАГІНУЎ Мікола Ермаловіч



**Пазаўчора ўвечары ён ехаў з Чырвонага касьцёла й пад вокнамі свайго дому трапіў пад машыну. Учора памёр. Тыдзень таму мы надрукавалі зь ім вялікую гутарку. Было яму 78 гадоў, быў ён амаль сьляпы з маленства, зацята бараніў праўду пра беларускую гісторыю, рыхтаваў новую кнігу. Усё за жыцьцё вытрымаў. Ён адзін супрацьстаяў цэламу савецкаму Інстытуту гісторыі.**

**Разьвітаньне мяркуецца на аўторак, у Доме літаратара. Вечная памяць.**



Фота Анатоля Клешчука

тэма нумару

## Што перашкаджае жанчынам тварыць?

*На старонках 6—7*

## Прыгоды Дранчука

1 сакавіка каля рэзыдэнцыі прэзыдэнта ў Менску адбыўся несанкцыянаваны пікет. Цімох Дранчук, Піліп Клікушын і Лявон Малахаў трымалі плякаты з патрабаваньнем неадкладна расьсьледаваць зьнікненьне В.Ганчара, Ю.Захаранкі і А.Красоўскага. Усіх удзельнікаў пікету затрымалі і завезьлі ў пастарунак. Судзьдзя Жданок дала ўсім тром хлопцам 5 начэй арышту. Але Цімоха Дранчука мусілі ўчора адпусьціць, бо ў яго прызналі чэрапна-мозгавую траўму. Нанесьлі яе яму пры перавозцы з суду на Прылукі — яго пасадзілі ў вялікае аддзяленьне аўтазаку, «стакан», дзе замест васьмёх перавозілі 18 паняволеных, і там ён пабіўся галавой. Два ж другія хлопцы так і сядзяць, і трымаюць галадоўку — выйдуць яны 8 сакавіка. Іх ня так даўно ўжо затрымлівалі за таптаньне расейскага сьцягу ў знак пратэсту супраць бойні ў Чачэніі. У Дранчука ж гэта ўжо чацьвертая адседка. Адчуване ён сябе па выхадзе на свабоду нармальна.

Б.Т.

### Спэцназавец забіў амонаўца

Інцыдэнт адбыўся ў ноч на мінулую суботу на начной дыскатэцы ў канцэртнай залі «Менск», — паведаміў Інтэрфакс. Супрацоўнік спэцпадразьдзяленьня па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» стрэлам зь пісталета забіў супрацоўніка менскага амону і параніў яшчэ трох афіцэраў атраду асобага прызначэньня ГУУС сталіцы. Забойцу затрымалі.

А.К.

### Вар'ят — вар'ята

Жудасны выпадак адбыўся ў вар'ятні, якая знаходзіцца ў вёсцы Гарадзішча каля Пінску (на месцы Гарадзішча месьціўся старажытны Пінск). Старэйшы мэдбрат у шаленстве застрэліў псыхічна хворага з паляўнічай стрэльбы. Калі забойцу затрымлівалі, ён супраціўляўся міліцыянтам.

Аляксей Дзікавіцкі, Пінск

### Ружы — поштай

Паштовая служба Беларусі зрабіла яшчэ адзін крок наперад. Напярэдадні 8 сакавіка паштавікі паведамілі, што цяпер можна даслаць жанчынам разам зь віншавальнай паштоўкай кветкі ці падарункі. Пошта абяцае даставіць усё ў тэрмін.

Сымон Глазштэйн

### Здароўе Сілівончыка

28 лютага сьветлагорскі суд прызначыў псыхіятрычную экспэртызу А.Сілівончыка, мэцэната сібірскіх археараўцаў. Наступнае паседжаньне — 6 сакавіка. Людзі паводзінамі Сілівончыка на судзе абураюцца, але сёй-той кажа: а каб цябе 8 месяцаў пратрымалі ў камэры, як бы ты сябе паводзіў?

Вадзім Болбас, Сьветлагорск

## АПОСТАЛ НАЦЫІ

24 лютага народны паэт Беларусі й бясспрэчны клясык нацыянальнае літаратуры Рыгор Барадулін адсьвяткаваў сваё 65-годзьдзе. Публічнае сьвяткаваньне юбілею адбылося ў суботу, 4 сакавіка, у сядзібе Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», да якога належыць і дзядзька Рыгор. Блізу 70 сяброў, знаёмых ды простых прыхільнікаў творчасьці сабраліся заўчора а трэцяй гадзіне ў залі фронтаўскай сядзібы. Спадар Барадулін пачаў ад вершаў, і па першым творы пачуў воплескі, што паўтараліся шторазу, таму й папрасіў: «Давайце, як я прачытаю, тады будзеце хлопаць», — а ўсё адно хлопалі шмат і часта. Вёў імпрэзу Юры Хадыка. Вершы дзядзька Рыгор чытаў па кожным віншаваньні і, відавочна, свае паэтычныя творы ён адбіраў адпаведна моманту й месцу дзеі, за што добра сьведчаць урыўкі зь іх: «Адам Міцкевіч паліць беларускія вершы свае, каб напісаў іх Янка Купала... Бог спачатку задумаў слова, сьведкай гэтаму думка была... Агню бязь цэмры цяжкавата, ня цяжка цэмры без агню... Веларусь паўтараецца за Рагнедаю ўсьлед: «Не хачу рабыніча разуваці...»

Першым павіншаваў свайго сябра мастак Аляксей Марачкін, падарыўшы ад сябе і Фронту палатно зь беларускім зімовым краявідам ды прачытаўшы верш з радкамі «нас не застрашыць КГБ, калі ў нас ёсьць паэт РБ». На імпрэзе быў і колішні прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір з жонкаю, выказаў словы прыязьні: «Я вельмі ўдзячны за сёньняшнюю магчымасьць павіншаваць Вас з днём народзін... Некалі Вы будзеце сьведкам таго, як Вашыя вершы будуць гучаць на поўную сілу ўва ўсёй Рэспубліцы!» Артур Вольскі чытаў, віншуючы, вершы.

Кінарэжысэр Віктар Дашук падараваў юбіляру аўтарскую копію фільма «Ноч доўгіх нажоў» з словамі: «Неўзабаве ў нашым жыцьці адбудзецца падзея, калі ноч скончыцца, і гэта будзе добрая нагода згадаць, як ты браў чарку» (апошняя фраза выглядала канцэптуальна ў кантэксьце фразы Аляксея Марачкіна: «Ты нас заўсёды заахвочваў, а сам ня браў...»).

Надзея Давыдовіч, якая з восьмае клясы была высланая на дваццаць пяць гадоў у Казахстан, ледзь не расплакалася ў сваім прызнаньні да Паэта: «Калі Бог стварыў Вас для народу, дык Бог Вас і зьберажэ!».

Маці старшыні Народнага Фронту Аляўціна Вячорка, у якой узорная беларуская мова спалучалася з жаночаю вабнасьцю й чалавечаю шчырасьцю, прызналася, што ў сваёй сумачцы разам з іншымі важнымі рэчамі заўжды носіць верш Рыгора Барадуліна «Таямніца перакладу». Па маці выступаў сын: Вінцук Вячорка ад імя Ўправы БНФ уручыў дзядзьку Рыгору падарунак-шарж — малюнак паэта ў абліччы мушкетэра, які стаіць ля памежнага знаку дзьвюх тысячагодзьдзяў і трымае шчыт з бээнэфаўскім крыжам: мауляў, гэтая алегорыя сымбалізуе фронтаўскасьць і вечнасьць.

*Працяг на старонцы 2.*

## Абраз, прабіты дубінай

*10 сакавіка мастаку Аляксею Марачкіну спаўняецца 60 гадоў*

*Калі на Чарнобыльскі Шлях 1996 году яго жорстка зьбілі міліцыянты, здымак прафэсара жывапісу з разьбітым тварам пабачыў увесь сьвет. Мастак бараніў свой твор — абраз «Маці Божае Чарнобыльскае». Прабіты міліцэйскай дубінай, гэты твор стаў сымбалем беларускага супраціву канца 90-х.*

*Пра Марачкіна — на старонках 10 і 11.*

# ЭЎРАПЕЙСКАЯ РАЗЬВЕДКА

***Сусьветныя і эўрапейскія структуры працягваюць «прамацваць» афіцыйны Менск. На гэтым тыдні да нас завіталі тры прадстаўнікі эўрапейскіх арганізацыяў і спэцыяльная місія Міжнароднага валютнага фонду.***

Эўрапейцы прыехалі, каб у чарговы раз заклікаць да працягу спансараванага імі дыялёгу паміж уладай і апазыцыяй, які быў раптоўна і крыўдна для Эўропы спынены Лукашэнкам. На выніковай прэс-канфэрэнцыі Адрыян Сэвэрын выказваў «асьцярожны аптымізм» з той нагоды, што Лукашэнка не адмаўляў магчымасьці ўнясеньня зьменаў ва ўжо прынятыя недэмакратычны выбарчы кодэкс і заявіў, што пад час арганізаванага вэртыкальлю «грамадзкага дыялёгу» можна будзе абмяркоўваць любыя пытаньні, у тым ліку і пра зьмены ў канстытуцыі. Але яшчэ ніколі за словамі сп.Лукашэнкі ня йшлі справы. І «магчымасьць абмеркаваньня» ніколі яшчэ не пераходзіла ў якасьць рэальных зьменаў.

Візыт МВФ меў на мэце знаёмства з пазыцыяй новага прэм'ера, Уладзімера Ярмошына. Ярмошын зрабіў усё, каб пацьвердзіць добрыя прадчуваньні пра сябе. Ён дэкляраваў неабходнасьць пераходу да больш жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі, а таксама патрэбу надаць большую незалежнасьць Нацыянальнаму банку.

Усё ж сталы прадстаўнік фонду ў Беларусі й Літве (сымптаматычна, што МВФ прызначыў не аднаго чалавека на Беларусь і Расею ці, скажам, Беларусь і Малдову, як гэта часта робяць эўрапейцы, але кіруецца здаровай геапалітычнай і гістарычнай лёгікай) Марк Гортан адназначна заявіў, што прадастаўленьне новых крэдытаў і рэструктурызацыя віны (а сёлета мы маем выплаціць 17 мільёнаў даляраў працэнтаў па ёй) не прадугледжваюцца, пакуль ня зьменіцца палітыка дзяржавы. Ён таксама рэзка скрытыкаваў рашэньне ўраду пра павелічэньне аб'ёмаў абавязковага продажу валюты прадпрыемствамі да 40%. І Ярмошын, і Пракаповіч у прынцыпе пагаджаюцца з гэтымі патрабаваньнямі й закідамі, але тлумачаць сёньняшні стан «тактычнай неабходнасьцю».

**Барыс Тумар**

правасла́ўная кроніка

## Выстава ў ДК МАЗу

У менскім ДК МАЗу распачалася фотавыстава «Беларусь Праваслаўная». Сябры Брацтва імя Архістраціга Міхаіла за 2 гады вандровак па краіне назьбіралі каля 600 здымкаў, што ілюструюць адметнасьці беларускага праваслаўя. Зь верасьня 1999 году выстава пабыла ў 17 гарадах краіны.

## Сабор у Лідзе

У Лідзе плянуюць пабудаваць праваслаўны катэдральны сабор на вул.Тухачэўскага ў гонар 2000-годьдзя нараджэньня Хрыстовага. Там урачыста заклалі камень, які асьвяціў япіскап Наваградзкі й Лідзкі Гуры. Нядаўна на гэтай жа вуліцы пабудавалі й касьцёл.

## Адбудова Ўваскрасенскай царквы

Віцебская праваслаўная япархія атрымала дазвол гарадзкіх уладаў на адбудову зруйнаванай у 1936 годзе Ўваскрасенскай царквы. Фундатарам аднаўленьня помніка позьняга барока будзе дырэктар абутковага прадпрыемства «Марка» Мікола Мартынаў. Гарадзкая ўніяцкая грамада патрабуе перагляду гэтага рашэньня і перадачы права на рэканструкцыю царквы ўніятам — бо будаваўся гэты сабор у свой час менавіта ўніятамі.

**Б.Т.**

# АПОСТАЛ НАЦЫІ

*Працяг са старонкі 1.*

Што да сэнсавае характарыстыкі «абразка», меркаваньні падзяліліся. Вінцук Вячорка назваў яго «менш мэтафарычным», а Юры Хадыка настойваў на большай «мэтафарычнасьці». Гэта было неістотна на тле чарговага прэзэнту — вялікага ананаса ад адной зь менскіх раённых радаў БНФ з пажаданьнем Рыгору Іванавічу разам зь іншымі беларусамі некалі займець магчымасьць наведаць краіны гэтае садавіны. Рыгор Барадулін на тое зацеміў: «Дык мы й так жывем у бананавай рэспубліцы».

Лявон Баршчэўскі зрабіў нечаканае прызнаньне: «Я ў прынцыпе кінуў пісаць вершы, як прачытаў Рыгора Барадуліна. Але перакладамі займаюся дагэтуль... Вы для мяне ёсьць узорам, і мове я вучыўся найперш у Вас. Янка Купала сказаў: «Я ў паэзіі Дзяржавін, а Дубоўка — Пушкін», шкада, што ён не дажыў і не перадаў вам эстафэты».

Не засталася абыякавай да жывога клясыка й фронтаўская моладзь. «Ад Маладога Фронту — наймаладзейшаму паэту» падараваў Павал Севярынец кубак для крынічнае вады й «Новы запавет» у перакладзе Васіля Сёмухі, дадаўшы: «Малады Фронт падтрымлівае Вас у тым, што Вы рабілі дваццаць пяць гадоў (ня пілі — В.М.)».

Да імпрэзы Уладзімер Кармілкін — фронтаўскі фатограф — падрыхтаваў выдатную выставу, прысьвечаную Рыгору Барадуліну, якую можна пабачыць, завітаўшы на Варвашэні, 8. Рыгор Барадулін адпаведна ацаніў высілкі фотафіксатара фронтаўскага жыцьця: «Як будзе ў БНФ Уладзімер Паўлавіч — будзе й БНФ!»

«Хто такі Лукашэнка? Гэта дробны палітычны дзеяч эпохі Барадуліна», — сказаў нехта. З гэтым добра стасуюцца словы яшчэ аднаго чалавека-эпохі — Васіля Быкава: «Беларусы павінны памятаць і ганарыцца тым, што жылі ў час, калі жыў Рыгор Барадулін — найвышэйшы пясьняр, якога дала беларуская нацыя. Яшчэ ніхто ня ўзьняўся гэтак высока». Дзьве гадзіны віншаваньняў і прызнаньняў у любові да мэтра нацыянальнае літаратуры пакінулі ўражаньне, што скуголеньні аб мове і ўладзе — гэта доля пэсымістаў, якіх можна адно пашкадаваць.

Задзіночыць людзей нельга вакол прэзыдэнтаў і іхных «круглых сталоў», іх нельга замірыць, даўшы палітыкам слова на бачынах якой «Советской Белоруссии», — гэта рэчы часовыя й паводле біблійнае філязофіі марныя. І Чыгір, і Вячорка, і Шчукін, які падпяваў беларускія патрыятычныя песьні, і Барыс Хамайда, які адмыслова прыехаў зь Віцебску — усе яны былі злучаныя постацяй Рыгора Барадуліна — бясспрэчнага апостала нацыі.

**Віктар Мухін**

## На паперы ўсё выйдзе

На Палесьсі ўлады плянуюць ды прагназуюць «разьвіцьцё народнай гаспадаркі» на 2000 год. Прыкладам, на Століншчыне вэртыкальшчыкі абвесьцілі, што ў бягучым годзе харчовая прамысловасьць будзе разьвівацца «апераджальнымі тэмпамі», а прадукцыйнасьць працы ўзрасьце дакладна на 11,8%! Вельмі хутка, пэўна, невядомымі дагэтуль у сьвеце тэмпамі, будзе разьвівацца сельская гаспадарка — «валавая вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўсіх катэгорыях узрасьце на 20,5%».

У Дарагічынскім райвыканкаме пайшлі яшчэ далей. Там плянуюць павялічыць вытворчасьць зерня на 24%, ільноваласну — на 89%, бульбы — на 44%! Паводле дакладу намесьніка старшыні Дарагічынскага райвыканкаму Сенькаўца на сэсіі раённага Савету дэпутатаў, «працаўнікі вёскі абавязаныя атрымаць з кожнага гектару пасеваў 23,4 цэнтнэры збожжа, 235 ц цукровых буракоў» і г.д.

## Дарафеевай ня трэба

У суботу ў Пінску адмянілі канцэрт Ірыны Дарафеевай. Не дапамаглі нават прыгожыя каляровыя постэры, разьвешаныя напярэдадні — пінчукі набылі толькі 20 квіткоў пры больш як 700 месцах у ДК. А вось 8 сакавіка ў Пінску мусяць выступіць «Сябры», дык квіткоў увогуле няма ў продажы — «уваход па запрашэньнях».

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Тыдзень без «Малыша»

Больш за тыдзень на паліцах астравецкіх крамаў адсутнічае дзіцячае харчаваньне «Малыш» і «Малютка», якое выракляецца на ваўкавыскім АТ «Беллакт». Прадаўцы іх зьнікненьне тлумачаць проста — танны прадукт вывезьлі ў Літву і «наварылі» немалыя грошы прадпрымальныя людзі. Мацярок гэта не супакойвае, бо імпартнага дзіцячага харчаваньня ў Астраўцы, як кажуць, са сьвечкаю ня знойдзеш.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

## З Шаркоўшчыны

У Шаркоўшчынскім раёне дзейнічае 6 грамадзкіх арганізацыяў. Перарэгістрацыю зь іх праходзілі толькі ТБМ і культурна-асьветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча. Ня так цяжка было прайсьці перарэгістрацыю, як стаць на ўлік. У райвыканкаме патрабавалі арэндаваць памяшканьне пад офіс, каб арганізацыі былі пастаўленыя на ўлік. Але кіраўнікі мясцовых установаў былі папярэджаныя не даваць памяшканьняў. Пару месяцаў арганізацыі «віселі ў паветры», пакуль не прыйшоў загад зьверху: можна скарыстоўваць у якасьці юрыдычнага адрасу хатнія адрасы сяброў арганізацыі. 28 лютага ТБМ і культурна-асьветніцкі Цэнтар Драздовіча былі пастаўленыя на ўлік.

## Зь Дзісеншчыны

На Дзісеншчыне прайшоў пленэр мастакоў менскай суполкі «Пагоня» і «Віцебскай акварэлі», а таксама навучэнцаў мастацкіх школаў Віцебшчыны, прысьвечаны Язэпу Драздовічу і Міхасю Райчонку. Вынікам сустрэчы сталіся мастацкія выставы ў Віцебску, Шаркоўшчыне і Галубічах.

**Б.Т.**

## Край

Вось ужо другі тыдзень у Мар'інай Горцы зьяўляюцца ўлёткі ваенізаванага згуртаваньня «Край». Улёткі заклікаюць любіць Беларусь не на словах, а справамі.

**М.Вуж, Мар'іна Горка**



# ПІКУЛЬ, OPEL І ВІШНЁВАЕ ВІСКІ

***Беларуская міліцыя выхаваная ў савецкім духу***

Можаце спрачацца, але ўсё ж гарадзенская міліцыя ня гэткая энкавэдысцкая, як сталічная, якую хлебам не кармі, а дай беспакарана памардаваць дэманстрантаў. Канечне, у Горадні не было нагэтулькі магутных акцыяў, як у сталіцы, таму міліцыі не было асабліва нагоды выяўляць зьвярыныя інстынкты. Дый улады не давалі каманды. Усё гэта так. Але ў сталіцы зьбіраюцца ня толькі лепшыя галовы, але й валацугі — таксама з усіх бакоў. А гарадзенская міліцыя — збольшага мясцовага паходжаньня, заходнебеларускага. Хоць і выхаваная цалкам у савецкім духу.

Гарадзенская абласная газэта «Милицейский вестник» тры гады друкуе час-часам анкеты афіцэраў міліцыі. Апытваюць палкоўнікаў і падпалкоўнікаў, зрэдку — маёраў. Такім чынам, з адказаў можна меркаваць пра густы і звычкі міліцэйскага кіраўніцтва. Пытаньні задаюцца цалкам цывільныя, пачынаючы з «вашага знаку задыяку». Праўда, зьнікла чамусьці пытаньне наконт улюбёнага сьпірытусовага напою. Замест гэтага сталі цікавіцца: ці ёсьць у вас зброя? Дзіўна. Вядома ж, што ў кожнага міліцыянта павінен ляжаць дзесь у сэйфе «макараў». Аднак усе адказваюць стандартна: няма...

Карацей, маецца на ўвазе, ці трымаюць таварышы афіцэры ў хатняй шуфлядзе штосьці яшчэ «на ўсякую прыгоду».

Пісьменьнікаў нашыя міліцыянты часьцей называюць — Пікуля, Ільфа зь Пятровым, Зошчанку. Раман любяць больш за ўсё «У жніўні сорак чацьвертага», а таксама «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цялё». Карацей, любяць пасьмяяцца. Узгадваюць яшчэ «Вайну і мір», «Пётру Першага», «Шчыт і меч», «Дзеці Арбату», «Ціхі Дон» і значна менш вядомыя, напрыклад, «Журналіст для Брэжнева». Але адзін падпалкоўнік сказаў, што для яго лепшы пісьменьнік — гэта Васіль Быкаў зь ягонай «Альпійскай баладай». А загадчык гаспадаркі УУС, палкоўнік у адстаўцы, лічыць найлепшым Якуба Коласа.

У кіно сытуацыя падобная. Найболей любяць афіцэры міліцэйскія дэтэктывы. «Месца сустрэчы зьмяніць нельга», напрыклад. Часта называліся «А зоры тут ціхія...» — як вядома, зь першай савецкай па-сапраўднаму эратычнай сцэнай параньня ў лазьні вайсковых сувязістак і санітарак зь вельмі рэльефнымі бюстамі і клубамі. Называўся і ўлюбёны фільм савецкіх касманаўтаў «Белае сонца пустэльні», а таксама «Масква сьлязам ня верыць», «Народжаная рэвалюцыяй» («Беларусьфільм», эпапэя пра савецкую міліцыю), «Сямнаццаць імгненьняў вясны» ды некаторыя іншыя, вельмі савецкія стужкі.

Міліцыянты нашыя — вялікія дачнікі, большасьць гаварыла, што любіць працаваць на дзялцы, увогуле — «фізычна працаваць». Рыбалку таксама любяць і паляваньне, некаторыя — зьбіраць грыбы. А начальніку амону вельмі падабаюцца «народныя танцы і кветкі». Гэта што датычыць хобі. А вось з напоямі галоўны амонавец таксама крыху зьдзівіў: люблю «вішнёвае віскі» дый годзе. Некаторыя прызнаваліся: добрае віно і каньяк. Але большасьць адказвала стандартна — гарэлка, прычым абавязкова «руская». Хаця сярод міліцыі пайшла мода на «Крышталь» з «Ільдзінкай» — мясцовай мінэральнай вадой з Парэчча (непадалёк Друскенік), якая саленаватая на смак.

Самай жаданай маркай машыны для апытаных зьяўляецца BMW. На другім месцы Opel і Audi, якой аддае перавагу ў тым ліку начальнік амону. Некаторыя адказвалі сьціпла: «На ўлюбёную няма грошай» або «Люблю свае старэнькія «жыгулі». Толькі адзін з апытаных ня стаў сьціплічаць, сказаўшы, што найболей яму падабаецца «кадыляк». Дарэчы, паводле словаў начальніка ўласнай службы бясьпекі УУС, з удзелам міліцыянтаў усё часьцей адбываюцца дарожныя здарэньні, што вельмі абурае цывільных шафёраў.

Большасьць міліцыянтаў заўжды чакае Новага году, любяць таксама адзначаць Вялікдзень. Мяркуючы з анкетаў, Дзень міліцыі папулярны мала. Хаця афіцыйна штогод у Горадні ён адзначаецца вельмі пампэзна. Другога сакавіка (каб начальства пасьпела на сталічныя ўрачыстасьці, якія адбываюцца 3-га) зноў быў масавы парадны збор на плошчы Савецкай. Адтуль пешая калёна, патрульныя «опэлі» і кавалерыйскі ўзвод прамаршавалі да азгураўскага Ільіча на плошчу Леніна, дзе адбыўся паказ міліцэйскіх здольнасьцяў.

Крыху дзіўна, але афіцэры, якія ўмеюць размаўляць па-беларуску і настроеныя досыць патрыятычна, у анкетах выглядаюць вельмі савецкімі. Ня думаю, што гэта маскаваньне. Хаця, яны ўсё адно савецкія не дарэшты.

Начальнік аднаго РАУС на пытаньне «ў што ён верыць?» адказвае: «У Бога. Ён — гэта лепшае, што можа быць у душах». Напачатку незалежнасьці адзін маёр міліцыі з тутэйшых прыслаў у рэдакцыю, дзе я працаваў, ліст супраць беларускай мовы. Ліст гэты ў мяне захаваўся. Сёньня гэта ўжо палкоўнік, ён піша і публікуе на беларускай мове міліцэйскія дэтэктывы. Памудрэў. Разам з усёй Беларусяй.

**Сяргей Астраўцоў**

# ЧЫСТКА РАДОЎ

## У Горадні рэанімавалі Аграрную Партыю, стваральнікі якой апынуліся ў апазыцыі. Цяпер іх замянілі вэртыкальшчыкі.

Дэлегацыі ад усіх раёнаў у прыўзьнятым настроі зьехаліся ў горад над Нёманам, каб аджывіць тысячныя шэрагі Аграрнай партыі. У 13-асабовым прэзыдыюме пасела начальства і адзін трактарыст. І цуд уваскрашэньня адбыўся!

Варта нагадаць, што раней кіравалі партыяй такія асобы, як С.Шарэцкі і М.Гіруць. Заходнікі, гарадзенцы. Пасьля незабыўнай спробы імпічмэнту ды іншых апазыцыйных «выбрыкаў» вэртыкаль атрымала ўказаньне са сталіцы пачаць развальваць гэтую партыю. Зьбіраліся сходы, на якіх патрабавалася скінуць Шарэцкага, Гіруця, асудзіць «адшчапенцаў»-апазыцыянэраў. Гіруць, аднак, датрымаўся кіраўніком гарадзенскай абласной арганізацыі АП да апошніх дзён. Каб выйсьці на трыбуну і сказаць тое, што прысутныя ў залі вэртыкальшчыкі і старшыні калгасаў баяцца паміж сабой гаварыць ужо даўно.

Сказаў пра 64-е месца краіны ў сьвеце па ўзроўні жыцьця, 137-е — па эканамічным разьвіцьці. Пра гарадзенскія калгасы, якія ў 91-м годзе сабралі 1368 тысяч тон збожжа, а летась — толькі 783 тысячы. Пра жабрацкія заробкі калгасьнікаў — 5—20 даляраў, якія звычайна затрымліваюць да 2—3 месяцы. Вайны і землятрусу не было, а ўсё горш і горш — чаму? Бо нідзе ў сьвеце, апроч як у нас, не бывае так: чым болей прадукуеш, тым болей стратаў. А ўказамі і дэкрэтамі кіраваць сельскай гаспадаркай яшчэ нікому не ўдавалася. Карацей, без эканамічнай свабоды нічога ня будзе.

Аграрна-дэмакратычная (так яна напачатку называлася) стваралася як партыя парлямэнцкага тыпу. Сярод заснавальнікаў былі і В.Старавойтаў, які пакаштаваў лукашэнкавай турмы, і А.Дубко, які апынуўся ў ласцы ў Рыгоравіча. Абапіралася яна збольшага менавіта на Гарадзеншчыну. У 95-м годзе тут было 5560 партыйцаў. З 22 абраных у вобласьці дэпутатаў апошняга ВС 14 было з Аграрнай партыі. Аднак пасьля рэфэрэндуму, сказаў М.Гіруць, людзей пачалі запалохваць, забараняць удзел у партыі: калі не паслухаеш, здымуць з працы.

Старшыня Смаргонскага райвыканкаму М.Кавалёў тры гады таму напісаў заяву, ня хочучы надалей заставацца намесьнікам старшыні абласной партарганізацыі. І раптам аддзел арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкаму праводзіць на чале з Кавалёвым нараду, каб склікаць абласны сход. Гіруця пры гэтым не запрасілі. А далей увогуле — цырк на дроце. Ад Гарадзенскага раёну, дзе 172 члены АП, былі абраныя на сход 25 чалавек. А ў Смаргонскім раёне, дзе вялікая партарганізацыя з 1290 чалавек, дазволілі выбраць толькі 10 дэлегатаў. Тым самым, зазначыў М.Гіруць, былі парушаныя і канстытуцыйныя правы, і статут партыі.

Ды для іх гэта пусты гук! У прэзыдыюме сядзеў сам А.Дубко — старшыня аблвыканкаму, які першы дзень выйшаў на працу, і толькі чакаў, каб самому палымяна прамовіць з трыбуны.


*Мечыслаў Гіруць*

Пачаліся «прэнія». І — о дзіва! — аніводны прамоўца слова кепскага не сказаў пра Мечыслава Гіруця... Аўтарытэт гэтага чалавека застаецца высокім. Некаторыя выступы былі мэлядраматычныя.

Напрыклад, вэртыкальшчык з Воранава нагадаў, што «ўсе мы, простыя людзі, ліем сьлёзы па Саюзе», які разваліў «тры зубры і кучка зубранят». Цяпер «эці паліцікі бегаюць за граніцай», тым самым «топчуць і ісьцязаюць» наш «чудзесны народ». (У залі пачуліся сьмяшкі.) Карацей, хопіць займацца палітыкай, трэба займацца «дзелам»! Такім чынам, палітыка і партыйная дзейнасьць, як аказваецца, розныя рэчы... Наступны прамоўца — з Гарадзенскага райвыканкаму — зноў-такі нагадаў, што: нам няма калі займацца палітыкай. А што да 25 дэлегатаў на гэты сход, дык, маўляў, наш раён у вобласьці таксама займае 25% па ўдзельнай вазе! (У залі зноў пачуліся сьмяшкі.) І пахваліў кадравікоў з аблвыканкаму: малайцы, сабралі нас на партыйны сход, вырашылі «ўстрахнуць».


*Аляксандар Дубко*

Старшыня калгасу з Ваўкавыскага раёну прапанаваў замяніць Гіруця вялікім начальнікам з аблвыканкаму. Толькі тады партыю будуць паважаць! Далей прагучаў сьлёзны ўспамін пра камандныя мэтады ў эканоміцы. «Харашо жылі. 20—30 рублей адкладывалі на аўтамабіль. Праўда, как купіць ня зналі. Жылі пракцічэскі пры камунізьме. Какіе шчасьлівыя эта былі годы».

Наступны калгасны кіраўнік успомніў старую ідэалягічную дурноту: Шарэцкі сапсаваўся пасьля таго, як зьезьдзіў у Амэрыку, а потым з амэрыканскім паслом — у сваю вёску.

Аляксандар Іосіфавіч Дубко гняўліва кінуў у залю: я знаю, яны ўсё роўна напішуць! (Маючы на ўвазе купку журналістаў, якія згубіліся сярод чынавенскай масы.) Але спыніцца ён усё ж ня змог.

Успомніў, як яны разам стваралі партыю, як яна яго выставіла на прэзыдэнцкія выбары, як набраў ён 7,8% галасоў, як Кебіч у яго гэтыя галасы выпрошваў. Але Аляксандар Іосіфавіч не аддаў. «Слава Богу, што мяне ня выбралі!» — шматзначна сказаў ён. Маўляў, Аляксандар Рыгоравіч! пачуйце! «Пачуйце жа гэта, пачуйце, хто можа з вас сэрцам чувацЬ...» Абласны начальнік падкрэсьліў, што «мы ствараем сёньня партыю новага тыпу». Хаця партыя даўно існуе!

Але са словаў прамоўцы вынікала літаральна, што ў цяперашнім выглядзе гэтая «кішэнная» партыя спатрэбіцца вэртыкалі на будучых выбарах.

Далей публіка пачула, што ў нас зашмат правяральшчыкаў (па кантралёры на кожнага чалавека). Што апазыцыя езьдзіць па заграніцах, хаця лічыцца беспрацоўнай, а ён — Дубко — «па чорным курсе» атрымлівае 150 даляраў (а зьлётаць у Швэйцарыю каштуе 800 даляраў). Што ён ведае, дзе бывае Гіруць і нават — што думае, паколькі «соответствующие органы» ўсё дакладаюць. Што ён не хацеў бы, каб яго ў Вашынгтоне паліцэйскі выцяў цераз плячо да крывавага пісягу — як нэгра. Што ён ні ў чым не вінаваты, хаця партыя «превратилась у отребье».

Хуценька выбралі новага партбоса — райвыканкамаўскага чыноўніка Э.Вяляева. Усё было вядома наперад, паколькі ён ад пачатку вёў сход, а іншых кандыдатур не было. Адзінае, што пасьля абраньня ён загаварыў бадай удвая зычнейшым голасам. Быццам «зайгралі трубы гарадзенскія»...

**Сяргей Астраўцоў**



# «НАША НІВА» – ГАЗЭТА ТВАЁЙ ВЯСНЫ

**Вясна ідзе. 15 сакавіка — Марш Свабоды, 25 сакавіка — Дзень Волі, 2 красавіка — Дзень Пратэсту, 26 красавіка —Чарнобыльскі Шлях, 1 траўня — Дзень Салідарнасьці. «Наша Ніва» будзе першай пісаць пра ўсе гэтыя падзеі.**

## ВЯСНА-2000 – З «НАШАЙ НІВАЙ»

*Дык падпісвайцеся! Падпісны індэкс 63125. Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у любым шапіку «Белсаюздруку».*

ПАЗЫТЫВЫ

# НА ЗАХАД

*Лукашэнка прыняў міністра Латыпава, заслухаў справаздачу пра стан замежнага гандлю Беларусі. На ўсю краіну абвясьцілі прыемныя лічбы: аб'ём экспарту ў краіны далёкага замежжа вырас на 19%. Пра тое, што гэта адбылося за кошт драстычнага скарачэньня продажу нашых тавараў у Расеі, маўчаць.*

Даўней, калі чалавек ня меў досыць зямлі, а быў здольны да рамяства, дык і няблага жыў. Праз тое наш край лёгка за саветамі індустрыялізаваўся. Разам з тым нядрэнную зрабілі сельскую гаспадарку. Але хібы калгаснага ладу давялі вёску да гаротнага стану. Падобна, што яшчэ гадоў дваццаць мы будзем імпартаваць асноўныя харчовыя тавары.

Іншая рэч — ці будзе за што. Эканоміка нашай краіны арыентаваная на экспарт. Аднак пры гэтым сярэдні заняты ў ёй беларус прадаў за мінулы год рознай прадукцыі ў замежныя краіны на 1300 даляраў. Дзеля параўнаньня, паляк — на 1800, а амэрыканец — на 12000. Апярэджваюць нас гэтыя натаўцы.

У нас апошнімі гадамі заўсёды адмоўнае сальда замежнага гандлю, г.зн. увозім у краіну больш, чым прадаем за мяжу. Напрыклад, у бягучых коштах у пераліку на даляры ЗША экспарт сёлета скараціўся на 19%, імпарт — на 25,3%, але апошні ўсё роўна застаўся большы на 742 мільёны даляраў.

Адсюль вынікаюць дзьве рэчы. Адна дрэнная — дзяржаве цяжка стварыць валютныя рэзэрвы і ўмацоўваць сваю валюту. Другая добрая — дзеля таго, што адмоўнае сальда скарацілася ўдвая, валавы ўнутраны прадукт ня зьменшыўся, як гэта было б, калі б замежнагадлёвы дэфіцыт застаўся такі самы, як у 1998 годзе, бо пры разьліках ВУП адмоўнае замежнае сальда вылічваецца. Дык калі б імпарт застаўся, як у 1998 г., дык ВУП скараціўся б у 1999 г. прыкладна на 10%, а ня вырас на 3%, як падлічылі нашы статыстыкі.

Грошай на імпарт не стае. Дзеля таго мяняемся таварамі. Бартэр дасягнуў у замежным гандлі 36%. Экспарт у Расею — больш чым на палову па бартэры, а імпарт зь яе — на трэць. Між іншым, Расея бярэ 56% нашага замежнагандлёвага абароту і застаецца галоўным партнэрам. Але запазычанасьць прадпрыемстваў Беларусі ў сьнежні 1999 г. перавысіла на 122 трыльёны старых рублёў расейскую запазычанасьць нам. З тых грошай на газ прыйшліся 30%, на электрычнасьць — 7%. Акрамя запазычанасьцяў, ідуць спрэчкі па вялізным, з паўтысячы найменьняў, сьпісе тавараў, якія сябрам па мытнай прасторы карціць прадаваць інакш, чым навыдумлялі інтэгратары. Упірацца інтэгратарам усё цяжэй. На «разбуранай» расейска-беларускай мяжы аднекуль бяруцца расейскія мытныя пасты і разьюшаныя беларускія перавозчыкі з фурамі ўпоперак дарогі.

**Увогуле ж можна толькі зьдзіўляцца пластычнасьці беларускіх вытворцаў. Кожнаму зь іх дзесяць разоў улады сказалі, што Ўладзівасток і Бішкек — «блізкае замежжа», а Беласток і Вільня — «далёкае», а ўсё адно летась доля краінаў «далёкага» замежжа ўзрасла з 27% да 38,6% у агульным аб'ёме экспарту. Зрэшты, што зьдзіўляцца — у сьвеце нас чакаюць.**

**Міхал Залескі**

## Зарэзалі «Муміфікатара»

Берасьцейскі гарвыканкам забараніў правядзеньне фэстывалю «Дзень муміфікатара», які ладзіўся Новым Фронтам Мастацтваў і меўся адбыцца 5—6 сакавіка ў гарадзкім клюбе «Вулькан». Здавалася б, арганізатары зрабілі ўсё, каб увесьці ў зман мясцовыя ўлады. Група «Правакацыя», што мусіла выступаць разам з «Солнце-Цветами» ды «Барадатым Грынвічам», на афішах была пазначаная як «Ура! Вакацыі!», а побач анансаваліся выступ вэтэранскага хору «Пралеска» ды дэклямаваньне вершаў Купалы і Коласа. Тэатар Псыхічнай Неўраўнаважанасьці, што меў прэзэнтаваць пэрфоманс «Попел», на абвестках — дзеля канспірацыі — называўся Тэатрам Душэўнага Спакою.

Аднаго толькі не ўлічылі маладыя авангардысты — хваравітай цікаўнасьці беларускага чыноўніка, які — насуперак чаканьням арганізатараў — залез-такі ў слоўнік ды патлумачыў сабе сэнс лекцыі Зьмітра Вішнёва «Капрафагія і беларускі нацыянальны касьцюм». На думку Юрася Барысевіча, чыя графіка ды каляжы мусілі падзівіць наведнікаў, мэрыя пералякалася ня так «сатанізму», як беларускамоўнасьці. Цяпер застаецца спадзявацца, што фэстываль «Дзень муміфікатара» ўсё ж адбудзецца 27 сакавіка на менскай «Вольнай сцэне».

**А.П.**

радыё на слых беларуса

## ЧЫРЫКАНЬНІ Ў ЭФІРЫ

З пачатку сакавіка ў Горадні і Слоніме пачулі ўпершыню сталічнае Радыё Бі-Эй. Дагэтуль «правінцыйны рынак» FM быў ужо заняты Радыё-Роксам і «Сталіцай». А яшчэ раней — станцыямі зь Беластоку, Варшавы і Кракава. Ехаў я нейк па гарадзенскай вуліцы Каліноўскага таксоўкай і пачуў, як у «Роксе» з задавальненьнем быў зачытаны ліст гарадзенца. Маўляў, раней ён заўжды слухаў на FM толькі польскія станцыі, але цяпер упадабаў «Рокс», і палякі яму болей не патрэбныя. Апошнім часам на гэтай станцыі ўсё часьцей пачуеш музычныя заяўкі ад гарадзенцаў, асабліва ад банкаўскіх службоўцаў ды супрацоўнікаў фірмаў. Музыка перадаецца салідная, дыхтоўны, пераважна англамоўны, рок. І гэта прываблівае.

Радыёпрызнаньне, пачутае ў таксоўцы, я ўспрыняў іранічна. Але нечакана для сябе сам усё часьцей пачаў перакручваць з кракаўскай RMF альбо варшаўскага Radio Zet менавіта на «Рокс». Хочацца, канечне, «слухаць беларускае». Аднак мяне не задавальняюць захлёбістыя галасы смаркачоў, якія, дарма што па-беларуску, але «чырыкаюць» у цалкам маскоўскім стылі па «Сталіцы». Дый музыка на «Сталіцы» — процьма расейскай бяздарнай папсы.

Што да «Роксу», дык тут хоць навіны прыстойна чытаюць, нібы пераадольваючы былую паталягічную маскоўшчыну.

Слухаць жа навіны «Сталіцы» немагчыма: адно суцэльна афіцыёзнае БЕЛТА. А Бі-Эй увогуле дадумалася карыстацца ІТАР-ТАСС! Англамоўнай музыкі тут не пачуеш, пра існаваньне беларускага року Бі-Эй, падобна, нічога невядома зусім. Адны толькі дурацкія «Я московский пустой бамбук», «Здравствуй, Волга, я Иртыш» або савецкія, часоў застою — «Обручальное кольцо — не простое украшенье». Уражаньне такое, што супрацоўнікам радыё невядома пра тое, што існуе краіна Беларусь. Вось і выходзіць нейкае правінцыйнае ўральскае або сібірскае радыё, якое чамусьці вяшчае зь Менску. Але шанцы ў яго нейкія ёсьць нават у памежнай Горадні: Бі-Эй слухаюць некаторыя навучэнцы ПТВ, шафёры грузавікоў і прапаршчыкі памежных войскаў.

**Сяргей Астраўцоў**

## Найбуйнейшы музэй найноўшага мастацтва

«Арт-сэзон» — традыцыйная калектыўная мастацкая выстава, на якой Полаччына падрахоўвае культурныя здабыткі мінулага году. Адмыслова да гэтай падзеі традыцыйна выдаецца аднайменная газэта. Сёлета ў газэце гаварылі пра здабыткі апошняга дзесяцігодзьдзя і пра эвалюцыю мастацтва. Сяргей Шыдлоўскі ў сваім невялікім эсэ «Полацкая марка» напісаў: «Полацак — горад жывых, і ўсе ягоныя нэкрапалі, крушні, лябірынты-клады маюць духовы сэнс, толькі матэрыялізаваўшыся ў міце — міце сучаснага квітнеючага гораду — першай і найпершай сталіцы беларускага мастацтва». Шыдлоўскі заклікае ўсіх палачанаў мэтанакіравана папрацаваць на гэты жыцьцядайны міт.

У «Арт-сэзоне-99» узялі ўдзел як вэтэраны і дэбютанты. Зь Віцебску са сваімі творамі прыехалі былыя ўдзельнікі полацкага мастацкага аб'яднаньня «4-63» — Васіль і Галіна Васільевы. Побач свае творы прадэманстравала новая полацкая мастацкая суполка «Белы круг». Уразіў наваполацкі мастак Ігар Куржалаў сваім «мадзільянеўскім» трыпціхам «Камуналка», прысьвечаным вечнай тэме — каханьню.

Адметнасьцю сёлетняга «Арт-сэзону» стаўся шырокі ўдзел фотамастакоў. Побач зь вядомымі на Полаччыне майстрамі Э.Цяцярэўскім, А.Елькіным, А.Дубатоўкам свае творы паказалі дэбютанты: Віктар Ушак (новы загадчык аддзелу культуры Полацкага гарвыканкаму) і Кірыл Смалякоў (навучэнец 11 клясы наваполацкага ліцэю).

У дзень адкрыцьця «Арт-сэзону» адбылася прэзэнтацыя яшчэ аднаго праекту, грандыёзнага і доўгатэрміновага. У залі быў выстаўлены макет другога паверху Полацкай карціннай галерэі, якая зойме адрэстаўраваную частку былога Езуіцкага калегіюму. Гэта будзе найбуйнейшы музэй беларускага выяўленчага мастацтва XX стагодзьдзя.

**Алесь Козік**

дзе варта быць

## Рок — жанчынам

У анонсе канцэрту гуртоў «N.R.M.» ды «Папенкінз бэнд» напісана, што ён прысьвячаецца «Міжнароднаму жаночаму дню — улюбёнаму сьвяту ўсіх мужчын». Адбудзецца імпрэза 8 сакавіка ў А-клюбе («Альтэрнатыве»). Пачатак а 19-й. Хлопцы праходзяць за 2000 рублёў, а сваіх дзяўчат праводзяць за 1500.

## Акцыя

Пікеты ладзіць грамадзянская ініцыятыва «Хартыя». Галоўная мэта — зьвярнуць увагу на парушэньні правоў чалавека ды дамагчыся ад уладаў згоды на перамовы з апазыцыяй, а таксама прыцягчы ўвагу да Маршу Свабоды 15 сакавіка і Дня Волі. Пікеты пройдуць на пл.Бангалор 6, 7 ды 9 сакавіка з 16-й да 18-й.

## Амэрыка вызвольная

Калі вы спрабуеце правесьці паралелі паміж вызвольным рухам Беларусі ды краінаў, што знаходзяцца па іншы бок плянэты, прыходзьце 7 сакавіка а палове на сёмую ўвечары ў Беларускі калегіюм, што месьціцца ў бібліятэцы імя Янкі Купалы. Ул.Абушэнка запрашае на лекцыю «Лацінаамэрыканская «філязофія вызваленьня».

## Выстава Кастуся Качана

Нядаўна ля ўваходу ў Палац мастацтваў зьявіўся новы анонс, на якім — схаваная за туманам выява Сынковіцкае царквы, чые чырвоныя муры амаль зьліваюцца з шэрым колерам неба. Гэта рэпрадукцыя карціны Кастуся Качана. Каб падзівіцца на арыгіналы ягоных твораў, завітайце ў Палац. Там да 16 сакавіка штодзённа (акрамя панядзелка) з 10.30 да 18.00 працуе выстава мастака.



Кастусь Качан. Зімовы вечар

## Ноч «Івана Купалы»

У Беларусь прыяжджае самы беларускі расейскі гурт — «Іван Купала». Хаця ягоныя ўдзельнікі нарадзіліся ў Пецярбургу, музыку яны зьбіралі ня толькі ў Расеі, але і ў нас. Што праўда, ажыятаж вакол гэтага праекту крыху сьціх. «Іван Купала» ладзіць «жывы» канцэрт у клюбе «Рэактар» 10 сакавіка, дзе прэзэнтуе сваю праграму «Кастрама». Пачатак а 23-й. Усё гэта мае назоў «Вялікая масьленіца».

## Конкурс пра Скарыну

Цэнтар імя Ф.Скарыны з падтрымкай Міжнароднага школьнага праекту, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (mab@lingvo.minsk.by) абвяшчаюць конкурс на лепшы твор, прысьвечаны Францішку Скарыну, да 510-х угодкаў яго нараджэньня. У конкурсе могуць узяць удзел вучні і студэнты. Прымаюцца школьныя сачыненьні і студэнцкія навуковыя працы, прысьвечаныя асобе Ф.Скарыны і яго спадчыне, а таксама мастацкія творы (вершы, апавяданьні, малюнкі, скульптурныя выявы, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва). У кожнай з намінацыяў устанаўліваюцца прэміі. Творы прымаюцца да 15.05.2000 на адрас: 220050, Мінск, вул.Рэвалюцыйная,15, Цэнтар імя Ф.Скарыны (т. (017) 220-93-50).

## У Францыі

15 красавіка француская амбасада разам зь Беларускай асацыяцыяй выкладчыкаў француская мовы ладзіць «Эўрапейскі конкурс французкай мовы» для беларускіх старшаклясьнікаў (10—11 кл.). Канкурсантам прапануецца напісаць твор на адну з тэмаў: роля сродкаў масавай інфармацыі, чалавечае існаваньне, свабода, экалёгія і інш. Групу пераможцаў (каля 40 чалавек) чакае 10-дзённае падарожжа ў Парыж з 7 да 16 ліпеня і падарункі. Ахвотныя мусяць запісацца да 31 сакавіка ў сп.Філіпа Жанці: Амбасада Францыі, Бюро па супрацоўніцтве ў галіне француская мовы, 220030, Менск, пл.Свабоды, 11. Т.210-28-68. Факс 210-25-51; або ў сп.Сьвятланы Шашковай: МДЛУ, Беларуская асацыяцыя выкладчыкаў француская мовы, 220034, Менск, вул.Захарава, 21.

## Акустыка ў касьцёле

У сераду 8 сакавіка а 19-й у Чырвоным Касьцёле маладыя сацыял-дэмакраты з Народнай Грамады ладзяць акустычны канцэрт — песьні пра свабоду, веру ў лепшае і, вядома, пра каханьне. Уваход вольны.

**Алесь Кудрыцкі**

### Ад Фрунзэ-5 да Варвашэні-8 —
## Крыжовы Шлях Літаратуры

Беларуская рэчаіснасьць працягвае натхняць на правакацыі паэта Славаміра Адамовіча. Яна ў нас такая, што сябра Саюзу пісьменьнікаў Беларусі паэт і журналіст С.Адамовіч ня мае сёньня магчымасьці правесьці аўтарскую вечарыну на сцэне Дому літаратара. І таму 8 сакавіка ў 18.30 ён зьбірае сваіх чытачоў на пляцоўцы каля ўваходу ў ДЛ, каб разам зь імі прайсьці Крыжовым Шляхам Літаратуры. А сёмай гадзіне вечара ў сядзібе БНФ адбудзецца паэтычная вечарына, на якой выступяць акторы беларускіх тэатраў і сябры Славаміра.

**Раман Краёвец**

турма

## ІНШАЗЕМЦЫ



Пару гадоў таму ў калёніі зьявіліся чарнаскурыя хлопцы. Яны спачатку зрабілі тут сапраўдны фурор, стаўшы аб'ектам розных, збольшага добразычлівых жартаў і прыколаў. Ну, згадзіцеся, «лілёвы нэгар» у лягернай ватоўцы і шапцы-вушанцы, які натхнёна накідвае шуфлем сьвежы сьнег у прычэп трактару «Беларусь», выглядае прынамсі экзатычна.

Афрыканцы адразу атрымалі адпаведныя мянушкі: «Вася-качагар», «Максімка», «Хахол» і да т.п. Усё гэта маладыя хлопцы, ёсьць сярод іх і былыя студэнты менскіх ВНУ. Тэрміны зьняволеньня яны атрымалі ў асноўным за дробнае наркадылерства ці махлярства. Цяпер у калёніі іх ужо цэлы тузін. Яны хуценька прыстасаваліся да ўмоваў утрыманьня, засвоілі неабходны лексычны мінімум, прычым найперш — ненарматыўную лексыку. Яна, кажуць афрыканцы, паводле сакавітасьці і выразнасьці ня йдзе ні ў якое параўнаньне з папулярным цяпер за плотам *Dirty English* зь ягонымі *fuck*-амі.

Аднойчы я, карыстаючыся сваёй сьціплай англельскай, запытаўся ў мурзатага камэрунца, як ён ставіцца да нашай беларускай зімы? Адказ быў наступны: маўляў, «зялёная» зіма яшчэ нішто сабе, а вось «белая» — увогуле сьмерць! І раптоўна ён выбухнуў сваім белазубым ротам.

Між іншым, да Беларусі гэтыя чорныя бедакі ставяцца добразычліва, бо разумеюць, што за свае наркадылерскія забавы дзе-небудзь у іншай краіне атрымалі б ня 5—7 гадоў вязьніцы, як у Беларусі, а ў пару разоў больш.

Менская калёнія мае статус інтэрнацыянальнай. Акрамя прадстаўнікоў усіх краін СНГ, ёсьць тут прыбалты, віетнамцы, трапляюцца палякі, грамадзяне Ізраілю, нават індусы з пакістанцамі. Зразумела, усе яны прыносяць у сумнае жыцьцё тубыльцаў своеасаблівы калярыт і аказваюць (міжволі, натуральна) агульнаадукацыйны ўплыў. Адкуль яшчэ Рыгору з-пад Ашмян даведацца, дзе тая Буркіна Фасо і ці ядуць там сала?

**Зьміцер Гарбуноў**

# ЛІНГА ЗВОЛЬНІЛІ З-ЗА ЧАЧЭНІІ

***Такія зьвесткі мае інтэрнэтаўская Gazeta.ru***




Камэнтуючы візыт расейскага віцэ-прэм'ера і гаўляйтэра Чачэніі Мікалая Кошмана ў Менск, Gazeta.ru піша, што Кошман шукае грошы на адбудову сваёй айчыны ва ўсёй Расеі. Мяркуецца, што кожны з багатых расейскіх рэгіёнаў, напрыклад, Урал, Арлоўшчына, Маскоўшчына возьме шэфства над адным з чачэнскіх раёнаў і ўсё там адбудуе. Масква хацела б, каб і Беларусь таксама дапамагала, але Лукашэнка і ўрад не пагаджаюцца так рызыкаваць грашыма і людзьмі.

Gazeta.ru прыводзіць таксама словы Кошмана, што «сёньня ў бюджэце грошай на аднаўленьне Грознага няма». Значыць, пацьвярджаецца вар'яцкі плян сьціраньня зь зямлі бунтарскай чачэнскай сталіцы — сымбалю дзяржаўнасьці Ічкерыі. Кошман «ня бачыць нічога страшнага ў пераносе сталіцы ў Гудэрмэс» — малы правінцыйны гарадок, які ня можа быць сталіцай, адно адміністратыўным цэнтрам. Гэтае рашэньне мае таксама на мэце паглыбіць традыцыйныя рэгіянальныя супярэчнасьці ў Чачэніі, зрабіць жыхароў Гудэрмэсу, што не супраціўляліся расейскім войскам і самі адчынілі браму свайго гораду, здраднікамі ў вачах насельнікаў рэшты Чачэніі, выпрасаванай бомбамі і «градамі». Пасьля вайны гудэрмэсцам будуць помсьціць. *Divide et impera.* У Менск Кошман прыехаў пасьля візыту ў Вену, у штаб-кватэру АБСЭ, куды ён лётаў, «прыхапіўшы з сабою», як выражаецца Gazeta.ru, кішэннага муфтыя Чачэніі Ахмад-Хаджы Кадырава. У Вене Кошман таксама патрабаваў грошай на адбудову Чачэніі.

У Менску Кошман падкрэсьліў, што лічыць Лукашэнку чалавекам, які «вельмі добра разумее сытуацыю, што склалася апошнім часам вакол Чачэніі». Гутарка ў рэзыдэнцыі Лукашэнкі зацягнулася на паўтары гадзіны, перавысіўшы рэгламэнт у 2,5 разы, і «прывяла да поўнай згоды». Быццам бы вырашылі, што Беларусь будзе папросту пастаўляць у акупаваную Чачэнію будматэрыялы і сельгастэхніку ў аплату за расейскі газ і нафту, а таксама тэхніку — у лізынг. Цяпер «група спэцыялістаў зь Беларусі мусіць выехаць у Чачэнію, каб абмеркаваць з часовым урадам гэтай рэспублікі дэталі праекту» (во небаракі!).

«Дапамогі Чачэніі чалавечымі рэсурсамі пакуль не прадугледжваецца, — піша гэтая найбуйнейшая і найбольш абазнаная з расейскіх інтэрнэт-газэтаў. — Зрэшты, з дапамогай чалавечымі рэсурсамі ня ўсё так проста. Па нашых зьвестках, — піша яна, — былога прэм'ера Лінга «адправілі» ў адстаўку якраз з-за таго, што ён не дапускаў уводу беларускіх салдатаў у Чачэнію. Па сутнасьці, Лінг проста выказаў думку Лукашэнкі, але публічнае выказваньне на сьлізкую тэму яму паставілі ў віну». Паводле іншых зьвестак, Лінг адмаўляўся даваць згоду на адпраўку ў Чачэнію беларускіх будаўнікоў.

Тымчасам у Чачэніі не спыняюцца бойкі. Спачатку ў Грозным у засядку трапілі маскоўскія амонаўцы (загінулі 20 чалавек, а з параненых да мінулае нядзелі памерлі ўжо 17), а ў ноч зь пятніцы на суботу ў Аргунскай цясьніне, паводле зьвестак расейскага тэлеканалу ОРТ, загінулі 70 дэсантнікаў. Другую навіну афіцыйныя крыніцы абверглі, але трывога сярод расейцаў не спадае. Міністар унутраных справаў Расеі перарваў свой візыт у нашу краіну і тэрмінова паляцеў у Грозны расьсьледаваць.

**Барыс Тумар**

## КРАІНА, ДЗЕ ЎСЁ «РЭАЛЬНА»



Тут няма памылкі. Масква сапраўды краіна, вельмі своеасаблівая, і назваць яе часткаю Расеі язык не паварочваецца. Хутчэй за ўсё, гэта часьцінка чагосьці заходняга ў Расеі. Хоць заходняе яно толькі звонку, а ўсярэдзіне гэта нешта іншае, карацей — маскоўскае. «Рэальна» — таму што гэтае слова зьяўляецца адметнай моўнай адзінкай у гаворцы сапраўднага масквіча. Калі табе не «рэальна» схадзіць у «МС» — ты ўжо нейкі цёмны правінцыял, а не масквіч.

Слова «рэальна» ў Маскве ня страціла свайго першаснага сэнсу: у Маскве ўсё магчыма! Масква апошнім часам ператварылася ў Амэрыку часоў пілігрымаў ці Кляндайк часоў *Golden Rush* — сюды зьяжджаюцца людзі з розных куткоў сьвету (галоўным чынам, з былога СССР) з надзеяй знайсьці хаця б кавалачак шчасьця (якое апошнім часам у большасьці атаесамляецца з грашыма). Шмат прыяжджае і зь Беларусі. Людзі розныя: хто гандлюе танным кіслым малаком, сьмятанаю, шкарпэткамі і г.д., хто зьбіраецца зарэгістраваць сваю фірму, бо ў Беларусі з прыняцьцем новага Грамадзянскага Кодэксу гэта стала даражэй, хто прыяжджае вучыцца, а хто адпачываць. Ці «рэальна» ў Маскве зарабіць? «Рэальна», нават дробным гандлем. Але таксама «рэальна» і стаць ахвяраю канкурэнтаў і страціць усё. «Рэальна» пачаць свой бізнэс — калі ласка, толькі асьцярожна. «Рэальна» павучыцца ў маскоўскім ВНУ — зараз трэба толькі здаць аднолькавыя іспыты, але таксама «рэальна» стаць ахвяраю розных спакусаў. «Рэальна» ў Маскве адпачыць, але гэта будзе дорага каштаваць, прычым, таксама рэальна і стаміцца ў маскоўскім натоўпе. Карацей, «рэальная» руская рулетка!

У Маскве раней за ўсё пабудавалі дэмакратыю, калі лічыць, што прыкметаю дэмакратыі зьяўляецца ўсё той жа МакДональдз — сёлета ён сьвяткуе дзесяцігодзьдзе сваёй дзейнасьці, накіраванай на зьнішчэньне кетчупам і колаю страўнікаў мільёнаў расіян, галоўным чынам масквічоў, натуральна.

Але гэта ўсё выгляд. Калі раней Масква зьдзіўляла адсутнасьцю ўсюдыіснае ў Менску міліцыі, дык апошнім часам (на мінулым тыдні) быў уведзены ўзмоцнены рэжым патруляваньня на вуліцах. Зьвязана, кажуць, з тым, што да Дня Абаронца Айчыны баевікі нібыта запланавалі фаервэрк. Выглядае ў жыцьці гэта наступным чынам — патрулі з сабакамі ходзяць і шукаюць «гексаген», а тыя, што без сабак, спыняюць ужо ня толькі «асобаў каўкаскае нацыянальнасьці» але і ўсіх падазроных. На кожнай станцыі мэтро цябе вітаюць усё тыя ж міліцыянты і маладыя вайскоўцы. «Нелегалам» — тым, хто ня мае рэгістрацыі ў Маскве — стала значна цяжэй — кара даволі высокая. Шчыра кажучы, «легалам» таксама непрыемна, калі адбываецца асабісты вобшук, ды яшчэ асобаю не аднаго й таго ж полу, хаця жанчын хапаюць даволі рэдка. На пад'ездах да Масквы спыняюць кары, большыя за легкавы.

А фаервэрк быў, толькі сапраўдны — сьвяточны.

**Дзядзька Антось, Масква**

# БУХАРСКІЯ ЖЫДЫ




У перакладзе з таджыцкай «хала» азначае «ні тое ні сёе» ды ўжываецца тады, калі трэба паказаць нешта няпэўнае, нетрывалае. У Таджыкістане гэтым словам клічуць таксама бухарскіх жыдоў, навернутых у іслам. І адзінакроўныя іх браты, веры якіх яны адракліся, і мусульмане, да якіх яны далучыліся, сумняваліся ў шчырасьці намераў «хала».

У XVI ст. Бухару, што цяпер знаходзіцца ў паўднёва-заходнім Узбэкістане, паставілі пад свой кантроль узбэцкія плямёны, якія з ахвотай прынялі іслам. У XVIII ст. шмат жыдоў — некаторыя з-за ўціску, іншыя ў пошуках лепшага жыцьця — зрабіліся мусульманамі. У наступным стагодзьдзі ўзмацняўся ісламскі фундамэнталізм, адпаведна звыклай справай зрабіліся пагромы ды напады на жыдоў. Таму ў XIX ст. яшчэ некалькі сотняў бухарскіх жыдоў вырашылі прыняць іслам, каб захаваць свае правы ды грамадзкае становішча ў Бухарскім Ханстве.

Абражаная жыдоўская грамада адраклася адступнікоў, перастала падтрымліваць зь імі якія-кольвек сувязі. Крыўда працяла ўсе дачыненьні паміж людзьмі адной крыві. У сваёй новай кнізе «Хала» Мансур Сурош, таджыцкі дасьледчык гісторыі бухарскіх жыдоў, апісвае выпадкі, калі жыдоўская дзяўчына ці хлопец сустракаліся з кімсьці з «новых мусульманаў», але рабіны забаранялі гэткае каханьне. Запэўніваньні ў тым, што «хала» вызнаюць Алаха толькі вонкава, а нутрана застаюцца адданымі старой веры, не дапамагалі: рабіны казалі, што чалавек ня можа жыць з падвойным духам. Калі «хала» паміраў, яго нават не маглі пахаваць па-людзку. Ягоныя родныя нярэдка адмаўляліся спраўляць традыцыйныя жыдоўскія хаўтуры, пад час якіх у сынагозе павінны прысутнічаць, як найменей, дзесяць чалавек. Маўляў, душа «хала» ня зможа знайсьці супакою на тым сьвеце і будзе толькі тузаць душы астатніх.

За саветамі любыя спробы дасьледаваць праблему бухарскіх жыдоў падаўляліся, падаўляліся і ўсе нацыянальныя пытаньні. За апошнія дзесяцігодзьдзі, асабліва пасьля распаду Савецкага Саюзу, блізу 25000 жыдоў эміґравалі з Бухары, Худжанду, Каканду, Самарканду, Шахры-Сабзу, Ташкенту ды зь іншых местаў у Ізраіль ды ЗША. У Бухары іх засталося толькі пад тысячу, а ў Душанбэ — усяго 300.

Часам слова «хала» ўжываюць у больш шырокім, мэтафарычным сэнсе. «Хала» — гэта фэномэн прымусовай асыміляцыі, што робіць шкоду той грамадзе, адкуль зыходзяць людзі, а таксама стварае небясьпеку для той культурнай супольнасьці, да якой яны далучаюцца. «Хала» — гэта лад думак тых, хто, незалежна ад сваёй нацыянальнасьці, з-за прымусу ўладаў ці ў пошуках прыбытку гатовы забыцца на сваю ўласную культуру, веру продкаў, свой народ.

Ці можна назваць бухарскіх жыдоў, якія прынялі іслам, манкуртамі? Гэтыя людзі зрабіліся закладнікамі нецярпімасьці з боку іншых народаў ды нават з боку сваіх суайчыньнікаў. Як піша ў сваёй кнізе «Хала» Мансур Сурош, «у нашы грэшныя часы знайсьці сапраўднага мусульманіна таксама складана, як адшукаць сапраўднага жыда».

Але няма сумневаў, што з ад'ездам гэтых сваіх для ўсіх і чужых для ўсіх бухарскіх жыдоў страчаны яшчэ адзін дыямэнт з кароны ўнікальных шматкультурных супольнасьцяў Бухары й Самарканду, што фармаваліся гадамі. Патрыёты гэтых азіяцкіх Вільняў ды Чарнаўцоў, напрыклад, пісьменьнік Цімур Пулатаў, што родам з Бухары, а піша па-таджыцку, са скрухай узгадваюць старое жыцьцё ў гэтых гарадах, жыхароў якіх узбэкі называюць таджыкамі, а таджыкі — узбэкамі.

Цяпер, пасьля падзелу рэгіёну нацыянальнымі межамі, многія таджыкі ў Самаркандзе, а ўзбэкі ў Худжандзе самі робяцца «хала», перапісваючыся ў мэтрыках на іншую нацыянальнасьць і старанна забываючыся на засвоеныя зь дзяцінства звычкі. Ці думалі яны, сужывучы з жыдамі, што некалі мусяць будуць паўтараць іхны шлях? «Кожны з нас трошачку жыд», — як піша Сакрат Яновіч...

**Алесь Кудрыцкі**

## Візы ў Чэхію

Чэская Рэспубліка ўводзіць візы для грамадзян РБ з 29 траўня. У апошнія гады турыстаў з былога Савецкага Саюзу наведвала краіну столькі, што па колькасьці яны саступалі толькі наведнікам зь Нямеччыны. Цяпер даходы Чэхіі ад турызму відавочна зьменшацца, затое і ўзровень злачыннасьці зьнізіцца. Візы ўвялі, бо гэта ўмова ўступленьня ў Эўрапейскі Саюз — закрыцца ад краінаў зь неэўрапейскай арыентацыяй.

## Олбрайт — для Чэхіі

Учора дзяржсакратарка ЗША Мадлен Олбрайт пачала свой візыт на радзіму, у Чэхію. А тыдзень таму ў Празе сталі гаварыць пра тое, што Олбрайт зьбіраецца балятавацца на пасаду прэзыдэнта Чэхіі. Праўда, сама спн.Олбрайт ужо заявіла, што ня будзе ўдзельнічаць у выбарах 2003 году, калі скончыцца тэрмін прэзыдэнта Гавэла, але хто ведае. Сам Гавэл кажа, што яна — адзіная патэнцыйная кандыдатка, якая магла б працягваць ягоны рэфармісцкі курс. Варта згадаць, што ні ў Літве, ні ў Латвіі прэзыдэнты-вяртанцы з Амэрыкі не расчароўваюць сваіх выбаршчыкаў. Што да Беларусі, дык у нашай сытуацыі браку яркіх палітычных дзеячоў, аналітыкі калінікалі згадваюць Івонку Сурвіллу — Старшыню Рады БНР, якая жыве ў Канадзе. Пасьля лукашэнкаўскага развалу і люмпэнізацыі грамадзтва «амэрыканскі варыянт» мог бы стаць для краіны сапраўдным ацаленьнем.

**А.К.**

**Ева Вежнавец, пісьменьніца:**

Мне цяжка ўявіць нешта такое, што магло б перашкодзіць маёй асабістай творчасьці. Для бальшыні ж маіх знаёмых галоўнай перашкодай зьяўляюцца хатнія справы: пакуль назавіхаесься на кухні, дык і няма калі за кампутар сесьці. Зрэдчас перашкаджае які старазапаветны муж — рэдкі тып цяпер, — які пачынае дакараць, што пакуль ты там пішаш розную лухту, у хаце вэрхал стаіць, сьмецьце валяецца... Але такі анахранізм цяпер — рарытэт. Многія жанчыны дзеля свабоды застаюцца адныя, альбо пасьпяхова падманваюць нудлівага мужыка, альбо ставяць сябе так, што на ўсё жыцьцё застаецца зразумелым, хто чым займацца будзе.





Фота Анатоля Клешчука

# ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ ЖАНЧЫНАМ ТВАРЫЦЬ?

*Вось як адказалі на гэтае пытаньне карэспандэнта «НН» 8 жанчын, чые заняткі так ці інакш зьвязаныя з творчасьцю*

**Тацяна Працька, старшыня Беларускага Гельсынскага Камітэту:**

Лягчэй пералічыць тое, што не перашкаджае. Жанчына ў нас — шматстаночніца, і калі яна займаецца творчай працай, ніхто яе ад сямейных клопатаў не вызваляе: то грошай няма, то прадуктаў. А дапамагаюць пераадолець жыцьцёвыя перашкоды каханьне, добрыя адносіны і ўвага. А пік творчасьці ў жанчыны, як і ў мужчыны, можа прыпадаць на розны век: Францыаза Саган свае найлепшыя творы напісала ў 16 гадоў, Агата Крысьці — у даволі сталым узросьце.

**Людміла Рублеўская, літаратарка і журналістка:**

Во, дзеці ля тэлефона танчаць, не даюць гаварыць, што ж яшчэ... У творчасьці жанчынам замінае тое ж, што і мужчынам: недахоп таленту, адным са складнікаў якога мусіць быць настойлівасьць, апантанасьць сваёй мэтай. Здаецца, Андрэ Жыд калісь пісаў свайму сябру: «Я паэт, таму лічу, што ўсе людзі на сьвеце павінны пакінуць свае заняткі і пачаць чытаць мае кнігі». На жаль, з-за сацыяльных абставінаў сёньняшняя беларуская жанчына вымушана думаць шмат пра што, толькі не пра творчасьць. Праўда, горш за ўсё бывае, калі яна сапраўды кідае ўсё астатняе дзеля той самай творчасьці, бо ў сёньняшнім кантэксьце гэта значыць ахвяраваньне сям'ёю, блізкімі. Гэткім чынам губляецца і вялізная частка самое творчасьці. Дарэчы, замежныя псыхолягі-фэміністы прыйшлі да высновы, што найбольш поўна свой творчы патэнцыял выказваюць тыя жанчыны, што рэалізуюцца як жонкі ды маці.

**Марыя Роўда, пісьменьніца, выкладчыца Лінгвістычнага ўнівэрсытэту:**

Мне ў творчасьці нічога не замінае. Дый што можа замінаць? Безумоўна, можа здавацца банальна — побыт: сям'я, дзеці, праца, мужчыны, што вось так позна тэлефануюць... Але змагацца з гэтым, думаецца, ня варта: калі ў жанчыны шмат клопатаў і дзесяць дзяцей за спадніцай валочуцца, тады ўзьнікае адчуваньне, што я нечага не пасьпею зрабіць, што побыт зацягне ў сваю дрыгву. І жанчына стварае. Калі ж усе хатнія справы за цябе робіць муж, калі за тваімі дзецьмі даглядаюць пяць пакаёвак, тады і стымулу да творчасьці няма.

**Кася Камоцкая, сьпявачка:**

Побыт. Ён і жанчыне перашкаджае, і мужчыну. Толькі ня трэба блытаць з побытам сям'ю, бо сям'я — гэта наш галоўны тыл. Дзеці — гэта цудоўна, а вось майткі ім праць — жудасьць. Змагацца зь перашкодамі можна альбо грашыма, купляючы хатнюю тэхніку, альбо праз выхаваньне мужа. Усе астатнія віды змаганьня за собскую свабоду лічу нядзейснымі. Я ярая праціўніца фэмінізму, бо гэта ня што іншае, як саманепавага: калі ты вылучаеш сябе ў асобна ўзятую жывёліну, ты той жывёлінай і зьяўляесься.

**Тацяна Сапач, паэтка:**

Жанчыне перашкаджае толькі яна сама. Ёсьць такая развага: калі можаш не пісаць песень — не пішы, калі можаш не пісаць вершаў — не пішы. Жанчына заўсёды імкнецца знайсьці нейкую нішу, у якой можна схавацца ад творчасьці, таму ёю можна займацца толькі пазбавіўшыся пэўнай часткі жаноцкасьці, стаўшы чалавекам, адкінуўшы гэтае абсурднае полавае падзяленьне. У юнацтве нас не вучылі быць мамамі ці жонкамі, нас вучылі быць адзінкамі пэўнага грамадзтва. Калі ж я — нечакана, як і многія іншыя мае аднагодкі, — сталася маладой маці, я таксама пачала выхоўваць сваіх дзяцей адзінкамі таго грамадзтва, аб якім мы марылі. І вось аднойчы мая дачка заявіла мне: «Мама, я хачу быць нявестай!» Бачачы маю разгубленасьць і зьдзіўленьне, яна дадала: «Я жэ жэншчына!» Падзяляцца на жанчын і мужчын маюць права толькі малыя дзеці.

**Таіса Бандарэнка, журналістка, мэнэджэрка:**

Калі жанчына хоча займацца творчасьцю, ёй нішто не перашкодзіць. Адсутнасьць жаданьня — адзіная нагода для бязьдзеяньня.



**Алена Палякова, фінансавая дырэктарка «Нашай Нівы»:**

У першую чаргу, нашыя эканамічныя ўмовы. А зь іншага боку, усё залежыць ад самога чалавека, ці хоча займацца ён творчасьцю, ці не. Не зважаючы на тое, мужчына ён альбо жанчына. Для мяне на сёньня творчасьць — стварэньне такіх умоваў, каб «Наша Ніва» выходзіла бесьперапынна. І я намагаюся, каб мне нішто не перашкаджала: трэба знаходзіць паразуменьне з рознымі людзьмі з розных сфэраў дзейнасьці, з рознымі палітычнымі ды жыцьцёвымі поглядамі. Самае галоўнае — гэта жаданьне, бо калі моцна захочаш, любую працу, нават самую будзённую, можна зрабіць творчай.

Апытваў А.Прос.

# HERstory замест

Сьвятлана КУРС

Я гляджу на фота пачатку XX стагодзьдзя. Амэрыка. Жанчыны пікетуюць Белы дом, патрабуючы права голасу. Пацешна, гэта было так нядаўна... Палова дарослых людзей губіла свой патэнцыял «ля хатняга цяпельца». Жанчынам было забаронена выступаць у публічных месцах, друкаваць допісы ў цэнтральных газэтах, зарабляць і мець у сваім распараджэньні ўласнасьць, пакідаць з сабою дзяцей па разводзе, выступаць ініцыятарамі разводу, нават зьяўляцца на людзях без кампаньёнкі. Праціўнікі гендэрнай роўнасьці сьцьвярджалі, што жанчына слабейшая ня толькі фізычна, але й разумова, што яна мае патрэбу ў абароне і таму мусіць заставацца дома, за плячыма ў мужчыны. Ня ўсе жанчыны мірыліся з гэткім становішчам. Першыя «спаднічныя мітынгі» пачаліся ў ЗША у 1869 г., калі была створаная Нацыянальная асацыяцыя жанчын. Аднак толькі ў 1920 годзе была прынятая 19-я папраўка да Канстытуцыі ЗША, якая гарантавала жанчынам права голасу. Да сярэдзіны XX ст. фэміністычная рэвалюцыя ахапіла ўсе заходнія краіны. У 1945 годзе была падпісаная Хартыя ААН па правах жанчын. У прэамбуле краіны-сябры ААН дакляравалі веру «ў каштоўнасьць кожнае чалавечае асобы, у роўныя правы мужчын і жанчын, а таксама нацыяў, вялікіх альбо малых». З тых часоў ААН стала цэнтрам глябальнага зруху ў правах жанчын. Аднак толькі ў 1975 годзе было абвешчана, што «няроўнае становішча жанчын — сур'ёзная перашкода, якая стрымлівае стратэгічнае развіцьцё чалавечай супольнасьці».

Многія вялікія людзі сьвету назвалі рух за жаночыя правы самай прагрэсіўнай зьявай мінулага стагодзьдзя. Не навукова-тэхнічная рэвалюцыя, а разьняволеньне скутых зьмяніла твар чалавецтва.

У Беларусі мала хто надае значэньне гендэрнай роўнасьці. Лічыцца, што дыскрымінацыі па полавай прыкмеце ў нас няма. Ніхто ў паранджах ня ходзіць, замуж гвалтам нікога не аддаюць, чаго ж яшчэ? Часам нават самі жанчыны не ўсьведамляюць сябе эксплюатаванай часткай. *Між тым жанчыны Беларусі працягваюць несьці падвойную нагрузку, працуючы і дома, і на вытворчасьці. Падлічана, што калі б бясплатная праца жанчын у сям'і разглядалася як вытворчая дзейнасьць, дык агульны аб'ём вытворчасьці ўзрос бы на 25—30%.* Беларускія жанчыны лічаць такі стан рэчаў нармальным: жанчына абавязана выконваць самыя цяжкія ды нудныя хатнія працы, бо яна — захавальніца хатняга цяпла. А мужчына — карміцель і абаронца. І цягнем мы свой вазок, не зважаючы на тое, што мужчына зарабляе толькі частку грошай, а другую — усё роўна зарабляць нам.

Напісала я некалі мяккі й асьцярожны артыкул у газэту, дзе выказала думку, што палову хатняе працы павінны ўзяць на сябе мужчыны і тым разгрузіць жанчыну для грамадзкага раскрыцьця. Ну, і пасыпалася ж на мяне! Тэлефанавалі людзі, якіх нельга было западозрыць у рэтраградзтве. Самае цікавае — шмат дакораў я атрымала ад жанчын. Ад тых самых, што прывыклі ірваць жылы на працы й дома, а вечарам правальвацца ў сон — з прыемным адчуваньнем уласнай рацыі. Гэтай рацыяй яны потым колюць усім вочы. Гэтыя кабеты, гаруючы, як чорныя валы, лічаць сябе уцялесьненай жаноцкасьцю. І прытым страшна злуюцца, калі пабачаць, як нейкая зь іх сясьцёр займаецца кар'ерай! Яны пачынаюць гарлаць, што фэміністкі рушаць цывілізацыйныя асновы, што яны хочуць пабудаваць бясполы сьвет, пазбавіць дзяцей мацярынскай ласкі, зрабіць з сапраўдных мужыкоў нейкіх эўнухаў...

У нас працуюць па хаце нават цяжарныя жанчыны, якія маюць патрэбу ў адпачынку. Пакуль існуе няроўны падзел працы, будзе пакутаваць практыка цяжарнасьці й догляду за дзіцём. З-за нашае стомы і беднага сілкаваньня дзеці нараджаюцца нетрывушчыя альбо непаўнавартыя. Дзіцячая сьмяротнасьць шугае, як пажар. Мужчыны не зарабляюць нават на лекі і малако, але патрабуюць, каб патрыярхальны сьвет стаяў непахісна.

Зазначаецца, што мужчына ад прыроды больш здольны, што сярод мастакоў, кампазытараў, літаратараў, вучоных-вынаходнікаў абсалютную большасьць складаюць мужчыны. Але прабачце, увесь той час, калі мужчыны сталі за пюпітрам, жанчыны драілі падлогу ля іхных ног! Паводле падлікаў, ад 60% да 80% «жаночага» часу (выключаючы сон і працу на вытворчасьці) прыходзіцца на абслугоўваньне: падтрыманьне чысьціні, гатаваньне ежы. Цыраваньне. Праньне. Крамы й базары, калі гэта гарадзкая дама. Агарод і сьвіньні, калі дама жыве ў вёсцы. Служба побыту занепала, а на добрую хатнюю тэхніку няма грошай.

Ёсьць і іншая зьява, распаўсюджаная ў сем'ях бандытаў і рэкецiраў. Муж атрымлівае дастаткова, каб купіць сабе жонку і забясьпечыць яе ўсім. Ён трымае жанчыну за мяккую цацку, за інкубатар па нараджэньні нашчадкаў, за хатняга зьвярка, які дзень і ноч паліруе пазногці і глядзіць у вакно. Грамадзкае жыцьцё такіх жонак строга рэглямэнтуецца і абмяжоўваецца наведваньнем салёнаў прыгажосьці.

**ПРА «МАДАМ ОЛБРАЙТ»**

Рашэньні, якія вызначаюць лёс сьвету, паасобных грамадзтваў, навакольнага асяродзьдзя, разьмеркаваньня рэсурсаў, прымаюць мужчыны. Мы недастаткова ўплываем на працэсы кіраваньня. Паводле ААН, у сусьветным маштабе жанчыны займаюць 10—20% кіраўнічых і адміністрацыйных пасадаў і менш за 20% месцаў на вытворчасьці. Сярод кіраўнікоў дзяржаваў жанчыны складаюць менш за 5% (!).

У беларускім урадзе з 28 міністраў толькі адна жанчына. У кіраўнічых органах палітычных партыяў прадстаўніцтва жанчын не перавышае 2—15%. Сярод дыпляматычнага корпусу жанчын усяго каля 20%. Затое ў міністэрствах сацыяльнага блёку — ад 60% да 90%. Гэтыя міністэрствы ніколі не лічыліся прэстыжнымі. Самыя фэмінізаваныя галіны гаспадаркі — бюджэтныя (дзе малыя заробкі), і галіны са шкоднымі ўмовамі працы (розныя пуцейкі ды ліцейкі).

Такое становішча апраўдваецца дзьвюма «аксіёмамі»: а) праца для жанчыны — не галоўнае. Толькі няўдакі, якія ня здолелі адлавіць вартага мужа, апантана будуюць кар'еру; б) у жанчын эмо-

# ВАН ГОГ У СПАДНІЦЫ

*«... Несусьветная калатнеча ды гвалт стаяць у нашай хаце! Муж выганяе мяне з інтэрнату да бацькоў («Тут будзе другая жанчына, што дагледзіць мяне і дзяцей не пакрыўдзіць!»), а тыя таксама не прымаюць. Усё лета я жыла зь дзецьмі ў іхным гумне на сене, але й там яны чынілі нам перасьледы, віжаваньне. Горш за ўсё, што муж пагражае, што «павыкідае ўсю крышнаіцкую літаратуру і мае дзёньнікі»...*

Кухонныя страсьці, фэміністкае змаганьне, крызыс сярэдзіны жыцьця... Якой толькі халеры ня лезе ў галаву, калі чытаеш падобныя лісты ў рэдакцыю або выслухоўваеш такое ў тэлефонных размовах. А ўрэшце пачынаеш разумець, навошта на Захадзе столькі жаночых арганізацыяў, фондаў, літаратуры... Бо й тамтэйшыя кабеты нічым не застрахаваныя ад тых самых грамадзкіх ды псыхалягічных праблем, якія лавінаю сыплюцца на галовы нашым. Толькі што ў нашых няма ані такіх арганізацыяў з фондамі, ані такога разуменьня з боку дзяржавы. Нашым — асабліва «нетыповым» — часьцяком выпадае на долю жоўты дом, быццам іхная «нетыповасьць» — хвароба ці злачынства. Колькі такіх — «недарэчы» таленавітых і «не да месца» фантазёрак — сядзіць у перапоўненых беларускіх вар'ятнях? Верагодна, шмат.

Адна з памылак нашага грамадзкага ўладкаваньня — гэта вылучэньне «жаночай праблемы». І тут усё да кучы: псыхалёгія, праца, творчасьць, сэкс, здароўе... Па-першае, з адваротнага боку кожнага гэтага слова стаіць мужчына, па-другое, да гэтае куламесы ўсяго-ўсенькага не падступіцца, каб тую праблему «зьняць». «Жаночую праблему» можна вырашыць, толькі «нэўтралізаваўшы» жанчыну як такую. А паколькі гэта немагчыма, грамадзтва здавальняецца агульнымі пажаданьнямі на 8 сакавіка. Калі ж з жанчынаю нешта ня так, гэта зноў сьпісваецца на «жаночую праблему», якая ў прынцыпе не вырашаецца. Вось вам замкнёнае кола. Не існуе ніякай «жаночай праблемы».

Трэба асобна казаць пра кожную з тузіну такіх праблем, называючы іх сваімі імёнамі. Напрыклад, пра тое, што замінае ў творчасьці.

Жанчына ў творчасьці знаходзіць сілы і натхненьне жыць. Ёй трыццаць-сорак. У яе сям'я, дзеці. Яна сьведамая беларуска і таму не прызнае «ніякіх фэмінізмаў», бо беларуская сьведамасьць — традыцыяналісцкая. Але жанчына піша вершы або разважае пра лёсы і пра Бога, бо ў гэтым яе энэргія, больш, чым у дзецях і сям'і. Яна, натуральна, добрая маці і гаспадыня, але часам яе «заносіць», яна піша шэдэўр і забываецца падмесьці хату. Сямейнікі «награвающца», аж пакуль не закіпяць. Тады ёй застаецца або заглушыць у сабе свой душэўны покліч (а менавіта гэтага неагалосна патрабуюць цяперашнія грамадзкія стандарты), або ісьці на развал сям'і...

Такія лісты, як працытаваны спачатку, чытаеш, ня любячы сябе. Выццам на цябе зьвяртаюцца па дапамогу, а ты дапамагчы ня можаш і ня ўмееш. Не дапаможыць тут і ніякія нашы арганізацыі, бо іхная задача — тыпізаваць «жаночы выпадак», акрэсьліць тую самую «жаночую праблему». А наш выпадак, хоць па-свойму і тыповы, але ж і антытыповы, бо гэта вылучэньне асобы ў творчасьці, гэта значыць — вылучэньне з усіх іншых. Ды й ня пойдзе наша жанчына з гэткім клопатам ні ў якія арганізацыі.

Вось жа з уласнага бясьсільля пачынаеш разумець, што глядзіш на справу ня тым паглядам. Няма



тут ніякае «жаночае праблемы». Гэта падманка, якая выклікае беспадстаўную жаласьць толькі таму, што ў цэнтры падзеяў — жанчына. Бо размова ідзе не пра пол, а пра ўчынак або подзьвіг асобы. Душа, як вядома, ня мае полу. Размова пра творцу. З гэткага гледзішча згаданыя лісты нагадваюць біяграфіі вялікіх мэтраў культуры зь мінуўшчыны, якія жылі ў жабрацтве і ўвесь час адчувалі ўціск як з боку сваякоў, так і з боку грамадзтва. Як мала «стандартнага шчасьця» ў біяграфіі Ван Гога! Але ж гэтая постаць ніяк не выклікае жаласьці, хутчэй — захапленьне. Чаму? Таму толькі, што гэта было ў мінулым стагодзьдзі? Ці таму што герой хадзіў у штанах, а не ў спадніцы? Неперакананаўчыя адрозьненьні.

Жанчына-творца сама творыць уласны подзьвіг. Гэта яе выбар. І тое, што яна жанчына — зусім не падстава бачыць у ёйным чыне драму з трагедыяй. Таму давайце лепей захапляцца ёю, як захапляемся Ван Гогам. Магчыма, я памыляюся, але й ёй самой варта глядзець на сябе гэтак.

Разумею, што закрануў балючую тэму, і таму заклікаю шаноўных суайчынніц абвергнуць мяне або дапоўніць ці проста выказацца на старонках «Нашае Нівы». Што вам замінае ў творчасьці?

**Сяргей Паўлоўскі**

## календар

**8 сакавіка 1950 г.** маршал Варашылаў абвесьціў на ўвесь сьвет, што Савецкі Саюз мае атамную бомбу. Неўзабаве ж выпрабаваньні яе сталі масавыя. Людзі на Століншчыне дагэтуль упэўненыя, што выпрабаваньні ядзернай зброі праводзіліся й там, у балотах — таму й трымаецца там дагэтуль высозны ўзровень радыяцыі.

**9 сакавіка 1825 г.** нарадзіўся Францішак Юндзіл. У 1863 г. ён браў удзел у антырасейскім паўстаньні К.Каліноўскага. Спачатку як ротмістар кавалерыі, потым як начальнік паўстанцкага камітэту ў Слонімскім павеце. Юндзіл ачоліў атрад з 250 чалавек і ўдзельнічаў у адной з найбольш буйных вайсковых бітваў паўстаньня — Мілавідзкай (ля вёскі Мілавіды ў сёньняшнім Баранавіцкім раёне). У той бітве ніхто не перамог. Пасьля паразы паўстаньня ў Беларусі Юндзіл адступіў разам з паўстанцамі ў Польшчу, дзе пры канцы 1863 г. стаў камэндантам Кракава.

**12 сакавіка 1600 г.** кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III ухваляе вайсковы плян Крыштафа Радзівіла. Крыштаф Радзівіл, вялікі гетман літоўскі, прапанаваў каралю выступіць на чале сямітысячнага войска ў Эстонію, дзе ў гэты час гаспадарылі швэдзкія войскі, а потым у Фінляндыю, якая кіравалася намесьнікам караля Швэцыі. Актыўныя ж баявыя дзеяньні пачаліся толькі праз два гады. Нечаканы эпізод адбыўся ў 1609 г., войскі Яна Караля Хадкевіча ўзялі Пярну і атрымалі перамогу пад Рыгай. Аднак у Рэчы Паспалітай былі пэўныя фінансавыя цяжкасьці, і заробак жаўнерам плацілі ня ў час, адбылася нейкая затрымка і тады. Вяры, не дачакаўшыся заробку пасьля перамогі пад Рыгай, разышліся хто куды. Вайна са Швэцыяй скончылася толькі ў 1629 г. стратай для Рэчы Паспалітай многіх балтыйскіх партоў і часткі Ліфляндыі.

**12 сакавіка 1925 г.** памірае Сунь Ятсэн, які быў першым прэзыдэнтам Кітаю (1912). Дзякуючы яму Кітай паверыў ва ўласныя магчымасьці і зноўку набыў статус вялікай дзяржавы. Сунь Ятсэну належыць крылатае выказваньне: *"Высокаразьвітыя дзяржавы падлічваюць колькасьць галасоў у выбарчых скрынях, дрэнна арганізаваныя дзяржавы лічаць палеглых на полі бітвы"*. Кажуць, што палітычная мэта доктара Суня была вельмі сьціплая: *"Мне патрэбны такі Кітай, дзе ня будзе неабходнасьці зачыняць дзьверы на ноч"*. З Сунь Ятсэнам вёў перапіску наш зямляк Мікола Судзілоўскі, які тады жыў у Японіі. У 1921 г. доктар Сунь зноўку займае пасаду прэзыдэнта Кітая, і ў 1921 г. да яго адразу прыяжджае Судзілоўскі. Цікава, пра што гаварылі?

**У 1825 г.** у першым расейскім тэатральным альманаху друкуюцца фрагмэнты п'есы Аляксандра Грыбаедава "Гора ад розуму". Першыя часткі славутай камэдыі пабачылі сьвет дзякуючы Фадзею Булгарыну, які больш вядомы як кансэрватыўны пісьменьнік і рэдактар "Паўночнай пчалы". А між тым Фадзей (Тадэвуш) Булгарын — адна з калярытных постацяў XIX стагодзьдзя. Нарадзіўся на Вузьдзеншчыне ў сям'і шляхціца, вучыўся ў сухапутным кадэцкім корпусе. Яму судзілі бліскучую кар'еру расейскага афіцэра. Але за сатырычныя вершыкі супраць вялікага князя Канстанціна Булгарын быў паніжаны ў службе, а потым наагул звольнены. У 1811 г. ён выяжджае ў Польшчу — шукаць вольнасьці Айчыны. Уступіў у Польскі Легіён і ўдзельнічаў у паходах Напалеона ў Гішпанію, Італію, Расею. У 1816 г., пасьля амністыі, едзе ў Расею, дзе пачынае займацца літаратурнай і журналісцкай дзейнасьцю. Малады, ініцыятыўны, дзелавіты Фадзей Булгарын меў значны посьпех і стаўся піянэрам некалькіх жанраў у расейскай літаратуры (фэльетон, маралісцкі нарыс, ваеннае апавяданьне).

**Алег Гардзіенка**

# HIStory



цыі пераважаюць над розумам, таму іх нельга дапускаць да сур'ёзных справаў.

Вось вам прыклад. Беларускія ды расейскія мэдыі часта пішуць пра спадарыню Мадлен Олбрайт. Камэнтатар НТВ, незадаволены тым, што Олбрайт крытыкуе расейскі разбой у Чачэніі, зазначае: «Спадарыня Олбрайт зьяўлялася прыхільніцаю бамбаваньня Косава, але асуджае бамбаваньне Чачэніі. Што зробіш, жаночая лёгіка». «Белорусская деловая газета» піша: «Цалкам магчыма, што сьвет ня ўведаў бы пра Мадлен Олбрайт, калі б ранкам 1982 году яе муж Джо Олбрайт ня вымавіў: «Я кахаю іншую». На хвалі страшнай крыўды, стаптанага пачуцьця справядлівасьці ды імкненьня даказаць, што яна самая-самая, на сьвет зьявілася спн.Олбрайт, пра якую загаварылі ўсе. Сябры сям'і сьцьвярджалі, што аж да прызначэньня прадстаўніцаю ЗША пры ААН Мадлен была гатовая на ўсё, калі б Джо пагадзіўся вярнуцца. Але ёй давялося абраць кар'еру».

Постсавецкія мэдыі актыўна падтрымліваюць заімшэлую міталёгію пра йснаваньне Сапраўднага Мужчыны і Сапраўднай Жанчыны. Так, паважаная мною Ірына Халіп у нататках «Жанчына ў краі тэлеграфных слупоў» піша, што ў нашай краіне мужчыны зьніклі як біялягічны від. Тыя, хто ў нас завуцца мужчынамі, ня ў стане зарабіць грошай ані для краіны, ані для каханай жанчыны. Беларускі мужчына — гэта звычайная цяглавая сіла. Мул альбо вол. «Калі мне хочацца прыхіліцца да каго-небудзь, я прыхілюся да тэлеграфнага слупа. Зь ім спакойна і надзейна. Ён заняты важнай справай — перадае тэлеграмы». Ну няма побач сапраўднага мужчыны, дык жанчыны мусяць навучыцца зарабляць грошы ды піць барыша.

Мне ўяўляецца ўвогуле заганным жаданьне да кагосьці харошага прыхіліцца. Прыхіляцца ці да мужыка, ці да слупа, ці да Расеі хочуць толькі слабыя, што не стаяць на нагах. Слабыя, сапраўды, на сьвеце ёсьць. А вось ніякіх «Сапраўдных Мужчын і Жанчын» — няма. Гэтыя лялькі адмыслова прыдуманыя для шантажу і маніпуляцыяў: «зрабі гэта, бо інакш ты не мужчына» альбо: «дзевачкі так ня робяць». Даўно заўважаная блытаніна паняткаў «мужчына» і «чалавек». Яна зафіксаваная ў большасьці моваў (але ня ў нашай).

На самой справе мужчына, як і жанчына, мае права на памылку і на слабасьць, ён мае права баяцца крыві і ня йсьці ў войска, пісаць вершы і запабягаць болю. Бо ён чалавек. І ня трэба яму лезьці ў скуру ідэалу. Быць ідэалам ніхто ня вытрымае, рана ці позна чалавек сарве маску, злупіць зь сябе скуру супэргероя і ўцячэ на волю — здрадліва, радасна, плюнуўшы на свой хлусьлівы аўтарытэт сярод слабых. Ламанецца да права быць самім сабою, жыць без напругі.

Ёсьць жанчыны-ваяры, якія хочуць змагацца на барыкадах, зрабіцца генэраламі ці дзяржсакратарамі, прэзыдэнтамі альбо кіраўнікамі спэцслужбаў. Ёсьць мужчыны, якія хочуць пісаць вершы, а жонка каб зарабляла на хлеб і шкарпэткі. Ёсьць мужчыны, якія хочуць глядзець дзяцей і варыць ежу, ніколі не пакідаць утульнага дому дзеля жорсткага сьвету.

Забіраць у людзей права быць сабою — грэх і гвалт. Традыцыяналізм зразумелы толькі ў савецкіх турмах, дзе людзей «апускаюць», робяць «петухамі» і «кобламі» за любую неадпаведнасьць гендэрнаму стэрэатыпу. Там — перакручаны, вылюдкавы сьвет, ён супрацьлеглы вольнай супольнасьці роўных індывідаў, якія самі абіраюць сабе лінію паводзінаў.

Нам, беларусам ды беларускам, да такое супольнасьці яшчэ ехаць ды ехаць. Плыць ды плыць. У нас лічыцца нармальным, калі п'яны і малааплатны кармілец таўчэ сваю змучаную палавіну, ганяе дзяцей, даводзіць сямейнікаў да жывёльнага стану. А потым кабета бярэ сякеру і на другім дзесяцігодзьдзі сямейнага жыцьця сячэ мужа на кавалкі. У нас нармальна цкаваць самотную «кар'ерыстку», ахрысьціць яе «старою паннаю», «сіняю панчохаю», лезьці з парадамі і навязваць ёй жаніхоў. У нас прынята лічыць, што кожная жанчына мусіць выйсьці замуж і стаць маці, хоча яна таго ці не.

Прыгнечаньне жанчынаў цалкам лягічна спараджае прыгнечаньне мужчынаў. Шлях да супэрвумэн ляжыць не праз канфрантацыю з мужчынамі, а праз прызнаньне і павагу.

**СУПЭРВУМЭН**

Адмаўленьне фэмінізму спараджае супэрфэмінізм. Тыя адзінкавыя жанчыны, што ўсьведамляюць сваё становішча, самі змагаюцца за свае правы. Яны адрэчваюць традыцыйны фэмінізм, бо той допускае, што жанчыны прыгнечаныя і непаўнавартасныя. Польская пісьменьніца Вольга Такарчук так акрэсьлівае панятак супэр- або постфэмінізм: «Постфэмінізм неканфрантацыйны, гэта засяроджаньне на тым, што значыць быць жанчынай. То бок я імкнуся пазнаваць, а не супрацьстаяць. Не «аддайце тое, што ў нас забралі», а «хай кожны робіць сваё». Калі я кабета, і адчуваю гэта глыбока, дык мяне цікавяць пошукі ў гэтым рэлігійнага, псыхалягічнага, культурнага сэнсу».

Псыхалягічныя падставы для фэмінізму я сфармавала б так:

«Я моцны чалавек з наборам правоў, і я абараню іх даступнымі мне сродкамі.

Я верная сабе.

Я ня зьвязваю сябе абавязкамі перад іншымі людзьмі.

Я абіраю сабе духовыя перакананьні.

Я ствараю ўласныя фінансы.

Я жыву так, што радасьць стала цэнтрам майго сусьвету.

Я выкарыстоўваю свой час, як хачу, я сама абіраю свае заняткі.

Я ведаю, чаго хачу ад мужчыны.

Я ніколі не пляткару, бо мне няма чаго баяцца і няма каго ненавідзець.

Я зьнішчаю ўсе нэгатыўныя, разбуральныя і страшныя думкі ды ідэі.

Мая будучыня сьветлая і цудоўная.

Мне прадвызначана стаць выбітнай жанчынай».

Мужчыны зрабілі Чарнобыль пры нашым маўклівым дазволе, злачынным саступніцтве. Чарнобыль усюды, куды ні глянь. Мужчыны ня справіліся бяз нас. Нейкіх якасьцяў не хапіла, каб быць уладарамі, дык пацясьнецеся бязь ляманту, мы тых якасьцяў дадамо. Дагэтуль чалавечы род стварэў HIStory. Настаў час напісаць HERstory.

# ПРА ВУЛІЦУ Ф.БАГУШЭВІЧА

*28 лютага «НН» надрукавала ліст Міколы Купавы, старшыні Нацыянальна-культурнай камісіі Партыі БНФ, у якім аўтар крытыкаваў ініцыятыву ТБМ надаць імя Францішка Багушэвіча менавіта вуліцы Інтэрнацыянальнай у Менску. У адказ мы атрымалі ліст старшыні ТБМ сп. А.Трусава, які публікуем ніжэй.*

## Дзякуючы намаганьням ТБМ у Менску будзе вуліца Францішка Багушэвіча

Напрыканцы мінулага году ТБМ зьвярнулася да кіраўніка ўраду з прапановай абвясьціць 2000 год годам Францішка Багушэвіча. 2 лютага 2000 году ўрад рашэньнем за №05/206-43 зацьвердзіў плян мерапрыемстваў, прысьвечаных 160-годзьдзю зь дня нараджэньня Ф. Багушэвіча. У гэтым пляне пад нумарам 10 ёсьць запіс аб тым, што ў 2000-2001 годзе імем Ф.Багушэвіча будуць названыя вуліца й бібліятэка №14 у Менску. Такім чынам, у галоўным пытаньне вырашана, і вуліца зь імем клясыка беларускае літаратуры ў сталіцы нашае дзяржавы будзе.

Цяпер наконт найменьня канкрэтнае вуліцы. Мы добра ведаем, што на вуліцу Інтэрнацыянальную «прэтэндуюць» ажно дзьве гістарычныя назвы: Валоцкая й Зборавая. Таму я прасіў бы сп.Купаву вызначыцца зь нейкім адным назовам, а потым пісаць пратэсты ў Менгарвыканкам, бо, чамусьці, пакуль ТБМ не ўзьняло гэтага пытаньня, нацыянальна-культурная камісія КХП ніякіх актыўных дзеяньняў не рабіла. Мы сыходзілі з таго, што на гэтай вуліцы стаяў дом, дзе заўжды спыняўся Ф.Багушэвіч, калі прыяжджаў па справах у Менск. Зараз на Інтэрнацыянальнай знаходзіцца Рэспубліканская пракуратура, а Багушэвіч быў прафэсійным юрыстам. Дарэчы, прыхільнікі таленту Ф.Багушэвіча ўжо не аднойчы выказваліся на гэны конт у друку, і мы падтрымалі іхную прапанову. Аднак, калі гарвыканкам згодны надаць імя Ф.Багушэвіча вуліцы Чырвонаармейскай, мы ня будзем пярэчыць, бо гэтая вуліца выходзіць якраз на тое месца, дзе некалі быў дом, зьвязаны зь імем беларускага паэта. Я жадаю адпаведнай камісіі КХПБНФ замест спрэчкі з ТБМ заняцца іншымі, больш стваральнымі справамі.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў**

# Ня трэба нам савецкай спадчыны

Прашу вас надрукаваць у «НН» мой адказ на ліст спадара Барталамеюша Гарбача ў «НН» №5 за 31 студзеня гэтага году, «Наша ці ня наша».

На вашую параду, спадару Б.Гарбач, — «Але ж беражэце аб'ектыўнасьць!» — будзем старацца яе берагчы, аналізуючы, што нам дала «савецкая эра». На самым пачатку яе савецка-расейскі рэжым зруйнаваў цяжка здабытую беларускім народам дзяржаўнасьць — Беларускую Народную Рэспубліку, абвешчаную Актам 25 сакавіка.

Вы кажаце: «За Саветаў мы ўпершыню за больш як 100 гадоў атрымалі дэ-юрэ аўтаномію...» Як тварылася гэтая «аўтаномія» на руінах БНР, гаворыць нам актыўны ў тых часох у Беларусі вызначаны бальшавік В.Кнорын у сваёй кнізе «1917 г., в Белоруссии и на Западном фронте» (Менск, 1925, бач. 74-75):

«...Беларускае пытаньне, дзеля таго, што бальшавікі не ўдзялялі яму належнай увагі, спрычынілася да некаторых нашых прыкрасьцяў. Па-першае, перад Саўнаркамам Заходняе Вобласьці паўстала пытаньне аб выдзяленьні беларускіх вайсковых аддзелаў... Па-другое, перад Саўнаркамам Вобласьці паўстала пытаньне аб 1-ым Усебеларускім зьезьдзе (Кангрэсе, — В.Ж.), скліканым у Менску з дазволам Наркамнаца (народнага Камісарыяту Народнасьцяў у Пятраградзе, — В.Ж.)... Пасьля доўгага змаганьня прынятая зьездам рэзалюцыя аб уладзе ўсё-ж такі аказалася нацыянальна-дэмакратычнай, у сапраўднасьці скіраванай да зьмены ўлады Саветаў на нацыянальна-дэмакратычную ўладу, створаную зьездам. **Дзеля гэтага Саўнаркам Вобласьці пастанавіў распусьціць зьезд...** На бліжэйшы час роспуск Усебеларускага зьезду спрычыніўся да пераходу беларускай нацыяналістычнай дэмакратыі яўна на бок выразных праціўнікаў савецкай улады і да падтрыманьня ёю рыхтаваных плянаў, зьвершаных арганізацыяй ураду Беларускай Народнай Рэспублікі пасьля адступленьня савецкай улады». (Цытата ўзята з працы «БНР ці БССР» В.Жук-Грышкевіча, Старшыні БНР, у брашуры «25 САКАВІКА», Таронта-Канада, 1978.)

«Дык не бальшавікі, — гаворыць далей В.Жук-Грышкевіч, — дбалі пра беларускую дзяржаўнасьць, а беларускія народныя масы, дэмакратыя, што выявіла сваю волю на Ўсебеларускім Кангрэсе пастановай стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана незалежнай пасьля таго, як бальшавікі на мірнай канфэрэнцыі зь немцамі ў Берасьці раздавалі беларускія землі нашым суседзям, ігнаруючы волю беларускага народу. **Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі бальшавікі ня мелі ўжо іншага выхаду, як стварыць сваю Савецкую Беларускую Рэспубліку,** што й зрабілі на цэлы год пазьней».

Вось як «За Саветаў мы ўпершыню за больш як 100 гадоў атрымалі дэ-юрэ аўтаномію...»

Пры гэтай «аўтаноміі» на пачатку 20-х гадоў беларуская нацыянальная эліта — мозг, сэрца, душа і матор нацыі — кінулася да будаваньня беларускай нацыянальнай дзяржавы — хай сабе й БССР. Ды Масква, а як хочаце, Крэмль-Сталін, агледзеўся, што беларусы ня думаюць ісьці ў савецкае рабства і, пачынаючы з канца 20-х гадоў, стаў вырэзваць у пень беларускую нацыянальную эліту й выразаў. Скажаце: ня рэзаў, а страляў у Курапатах ды замучваў у Салоўках. А гаворачы пра Курапаты, такіх мясцоў, дзе штодзённа адбываўся генацыд над беларускім народам, ёсьць на нашай зямлі шмат, яны яшчэ чакаюць на сваіх **Зянонаў Пазьнякоў!**

Масква — усё роўна, чырвоная, белая ці чорная — і праз «аўтаномію» зьнішчыла беларускую дзяржаўнасьць, зьнішчыла беларускую нацыянальную эліту, зьнішчыла разумных землеробаў, прадпрыемнікаў, каб трымаць беларускую нацыю ў цемнаце, жабрацтве ды каб наагул зьменшыць лік беларускага племя, падрад, каго папала штоночы вывозіла ў Курапаты, Чалюскінскія паркі... Савецкі расейскі рэжым дзясяткамі гадоў чыніў генацыд над беларускім народам. А з тае часткі, што заставалася пры жыцьці, нялюдзкім тэрорам вымаў душу, нішчыў мову, культуру, ілжой хаваў ад народу ягоную гістарычную спадчыну. Інакш кажучы, поруч з генацыдам, чыніў сыстэматычна лінгвацыд, этнацыд — зьнішчаў у пень беларускі народ, нацыю.

A David R. Maroples кажа пра Беларусь: *«Belarus: A Denationalized Nation». Amsterdam: Harward Academic Publishers, 1999. Xv. 139 pp+chronology, bibliography, index».*

І Вы, спадару Б.Гарбач, хочаце, каб мы за ўсё гэта дарылі любоўю нашага зьнішчальніка. Скажаце, хто гэта «Мы»?! А гэта тыя, пра каго Янка Купала кажа:

«І душы із нас ня выняў ні маскаль, ні польскі пан».

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

МОВА — 2000

# Слоўнік «Нашай Нівы»

Скончыўшы на 99,9% працу па стварэньні партугальска-беларускага слоўнічка, я сутыкнуўся з тым, што ня маю беларускага адпаведніка для *banda disenhada*, францускі адпаведнік *la bande dessinée*, г.зн. сэрыя малюнкаў, разьмешчаных лінейна ў выглядзе стужкі, комікс. Калі хто мае ўдалы варыянт, дык хай мне яго паведаміць.

Гэта я да таго, што сапраўды вострa існуе праблема перадачы шэрагу паняцьцяў пабеларуску. (Пісаць «па-беларуску» праз злучок ня мае сэнсу, усё роўна гэта прыслоўе, дык ашчадней і прасьцей пісаць яго разам.)

Учора я быў у сельсавеце, і сакратарка мне пажалілася, што даведкі пра сьмерць трэба выпісваць пабеларуску, а дахтуры спрэс пішуць свае даведкі парасейску. Між тым адмысловага мэдычнага слоўніка няма, і яна мусіць карыстацца — тутака яна выняла з-пад стала — расейска-беларускім слоўнікам нябожчыка Грабчыкава. (Слоўнік хоць і дыфэрэнцыйны, але добры, гэта зазначу, каб пахваліць аўтара.) І гэтая праблема, такім чынам, існуе па ўсёй нацыянальнай тэрыторыі.

На балонках — і выкапаюць жа слова! — *maledetti nazionalisti*! — слаўнай высокапатрыятычнай газэткі «Наша слова» рэгулярна зьяўляюцца артыкулы наконт расейшчыны ў моўнай практыцы і ў слоўніках. То я вось што скажу (прабачайце, людзі добрыя!): нашыя лінгвісты-лексыкографы ўсё шчэ пад чарамі расейскай лексыкаграфіі. Нават слоўнік называюць «тлумачальны», хоць гэта ніякі не «тлумачальны», а проста слоўнік мовы. Таму найпільнейшая задача нацыяналістычных лексыкографаў — пасьля добрай граматыкі беларускай мовы!!! — даць сучасны слоўнік сучаснай беларускай мовы ў хоць бы — і нават пажадана!!! — у адным томе, словаў гэтак тысяч на 50—60.

Пасьля той том можна мадыфікаваць для розных катэгорыяў навучэнцаў, службоўцаў і нават для забаўляльнага чытаньня. Гартаньне і прагляд добрага слоўніка — гэта такая асалода!

Трэба прайсьці брытваю Акама па ўсім корпусе беларускай лексыкаграфіі.

Дзе сілы і сродкі?

Гіганцкі оксфардзкі слоўнік ангельскай мовы быў складзены пераважна самахвотнымі. Для невялікага штату экспэртаў і кансультантаў сродкі знайсьці можна. Але справа гэта павінна быць распачата неадкладна.

Калі б за гэтую высакародную справу ўзялася «НН», то і слоўнік мог бы атрымаць назоў Слоўнік «Нашай Нівы». Раз вы «першая» газэта, дык будзьце правафлянговымі — ці як тамака ў Судніка?! Час нам мець натуральны слоўнік нашай мовы.

Праблема шчэ палягае ў тым, што шэраг беларускіх андэграўндных і маргінальных выданьняў спрабуе ўжываць моладзевы жаргон. На вялікі жаль, гарадзкія хлопцы-выдаўцы — саматужнікі! — амаль ніколі не валодаюць добра стандартнаю беларускаю моваю, шчэ меней ведаюць жаргон. (А што ўжо казаць пра прафэсійных журналістаў, што схапілі Бога за бараду!) Вось ім і патрэбна добрая даведачная кніжка. Трэба зьбіраць і сыстэматызаваць жаргон.

Ён жа ёсьць.

Надоечы адзін начальнік сярэдняе рукі — сам чуў на свае вушы — казаў, што добра забыў (літаратурную) беларускую мову, гэта ён казаў са шкадаваньнем — але дужа любіць пачытаць тутэйшы андэграўндны нацыяналістычны лісток на беларускай мове.

Беларускае — гэта прыгожа!
*Belarusian is beautiful!*

Казаў ён гэта, зазначу, пабеларуску. Дык давайце ж заб'ём у звоны, як гэта робя нястомны званар беларушчыны спадар Алег Трусаў, хай Бог дасьць яму здароўя. І звон гэнага званара зусім не хаўтурны, чуяцця?

Ня трэба толькі нікога пужаць тым, што няма грошай.

Што пісалі францускія студэнты ў слаўным 1968-м?

*Soyez réalistes, demandez l'impossible!*

Во!

І яшчэ існуе праблема перадачы беларускіх тапонімаў на эўрапейскіх мовах. Робячы дадатак да невялічкага беларуска-нямецкага слоўнічка, зноў пераканаўся, што на нямецкіх картах усё пададзена з расейскай.

То мо варта было б зрабіць па гэтай праблеме сэмінар, канфэрэнцыю, сымпозіюм, кангрэс. Меней аніяк нельга. Але хацелася б пачуць меркаваньне сп. пасла Пётры Садоўскага, ня ведаю, як зь ім скантактавацца.

*«Прабоіч»* — так называлі ў нас востры жалезны шпень, якім прабівалі дзіркі ў блясе, абручах. То мо так можна назваць і прыладу для прабіваньня дзірак у паперы. А то дзірка + кол?! А «кампосьцер»? Што гэта за слова такое!?

Як звычайна, Жыве Беларусь!

**З нацыяналістычным прывітаньнем,**
**Мікола Бусел**

**P.S.** Ці будзе калі факсымільнае выданьне «НН» за 1906—15? Здаецца, было, але мне не пашчасьціла. А хочацца мець.

# Трэба экстрэмісцкая старонка

Усё больш ёсьць экстрэмісцкіх нацыяналістычных араганізацыяў. У грамадзтве сапраўды пануе мода на экстрэмізм, бо сярод моладзі ўжо папулярныя ня панкі ці гранджы, а тыя ж «краёўцы», «легіянэры», скіны і, на жаль, РНЕ. І я лічу, што вы, як сродак масавае інфармацыі, павінны асьвятляць і гэты бок грамадзкага жыцьця. Таму прапаную ўвесьці ў газэце экстрэмісцкую старонку.

Я магу з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што са зьяўленьнем беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў узьнікла і магчымасьць даць належны адпор усялякім там РНЕшнікам. Вось, напрыклад, у Берасьці краёўцы запалохалі мясцовых баркашоўцаў, дык некаторыя зь іх і дарогу забылі на свае сходкі. А калі трэба будзе, дык і па санях можна ім зьезьдзіць пару разкоў. А то, бач, у такім маленькім мястэчку, як Кобрынь, паразьвялося гэтае набрыдзі блізу сотні мордаў. А Радзіму нашу яны называюць Белорусской провинцией. І толькі радыкалы даюць ім належны адказ.

**Бугай, Берасьце**

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Скарыніч:** Літаратурна-навуковы гадавік. Вып.4 / Укладальнік А.Каўка. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 240 ас. — Наклад 200 ас. ISBN 985-6318-66-1

*Выпуск амаль цалкам прысьвечаны гісторыі славутага ў 1920-я гады літаратурнага аб'яднаньня «Ўзвышша». Дакумэнты друкуюцца з захаваньнем усіх адметнасьцяў арыгіналу — цікавостка для беларускіх філёлягаў. «Скарыніч» таксама піша пра гісторыка Юр'я Туронка.*

**Сьпеў глушца. Таямніцы запаведнае прыроды:** Фотаальбом. У беларускай, ангельскай ды расейскай мовах. Аўтар тэксту й фота І.Бышнёў. Пераклад у ангельскую мову М.Фядосік; Мастак Т.Мельянец. — Менск: Беларусь, 1999. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-01-0239-X

*Краявіды беларускае прыроды ня менш, як старыя каменіцы, вежы замкаў ды касьцёлаў сьведчаць пра адметнасьць і непаўторнасьць аблічча нашае краіны.*

У.Ягоўдзік. **Сем цудаў Беларусі:** Для малодшага й сярэдняга школьнага веку / Мастак П.Татарнікаў. — Менск: ВТАА «Кавалер паблішэрз», 1999. — 32 с.: іл. (Сем цудаў Беларусі.) — Наклад 5100 ас. ISBN 985-6427-20-7

*Белавеская пушча, крыж сьв.Эўфрасіньні Полацкай, «Біблія» Францішка Скарыны, Сынковіцкая царква, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., слуцкія паясы й Нясьвіскі палац Радзівілаў — гэткі, на думку Уладзімера Ягоўдзіка, сьпіс нашых сямёх цудаў. У іншых кнігах ён абяцаецца дапоўніць гэты сьпіс, у які абавязкова мусяць увайсьці гарадзенская Каложа й полацкая Сафія. Кніга атрымала прыз як лепшая па афармленьні кніга прыватнага выдавецтва на Менскім міжнародным кніжным кірмашы.*

**Кнігі чытаў Віктар Мухін**

# QUI PRODEST?

## Загадка Радзівілаўскага летапісу

Загадку гэтую мне задаў і нават паказаў мой школьны сябра Анатоль Лукоўскі, былы жыхар мястэчка Ружаны, што на Берасьцейшчыне, сёньня — пецярбуржац са стажам. Ён мае рэдкі экзэмпляр факсымільнага выданьня Радзівілаўскага, або Кёнігсбэрскага летапісу, датаваны 1902 годам. Выданьне чорна-белае, даволі якаснае.

Колькі словаў пра сам летапіс. Дасьледнікі лічаць, што ён датуецца XV ст. Памер паперы — у «аркуш», г.зн. прыкладна 315x210 мм. У рукапісе 251 аркуш, сьпісаны з абодвух бакоў, і 618 цудоўных каляровых ілюстрацыяў. Вадзяныя знакі на паперы — бычыная галава з крыжам. Такая папера лілася на беларускіх папернях якраз у XV ст.

Радзівілаўскі — бо апошнім уладальнікам летапісу быў князь Багуслаў Радзівіл (папярэднімі вядомымі — ягоны бацька Януш Радзівіл, які атрымаў летапіс ад Станіслава Зяновіча).

Кёнігсбэрскі — бо Багуслаў перадаў яго на захаваньне ў Кёнігсбэрскую бібліятэку. У 1761 г., пад час Сямігадовай вайны з Прусіяй расейцы захапілі Кёнігсбэрг, і з таго часу па сёньня летапіс захоўваецца ў Бібліятэцы Акадэміі Навук (былой Імпэратарскай) у Пецярбургу. Пятро I добра ўяўляў сабе каштоўнасьць рукапісу, бо яшчэ ў 1713 годзе загадаў зрабіць дакладную копію. Яна таксама ў БАНе.

Некалькі пазьнейшых надпісаў на старабеларускай, лацінскай і нямецкай мовах сьведчаць, што ні ў якіх іншых руках ён не пабываў (да расейцаў, зразумела).

Але вернемся да загадкі. Гартаем летапіс. Нумарацыя ідзе па аркушах, а не па старонках, як мы прывыклі. На пачатку рукапісу дзясяткі паўтары пашкоджаных аркушаў. Фотакопія добра перадае асаблівасьці пашкоджаньняў: вось дзюрка, вось падклейка, вось сатлелы край паперы — ніякіх пытаньняў. І гэтак даходзім да 8-га аркуша. Ён пашкоджаны мацней за папярэднія. Уважліва разглядаем першую і абаротную старонкі аркуша.

Вось вам і загадка: контуры абарваных, пашкоджаных старонак не супадаюць! Як такое можа быць? Адказ адзін: на рэстаўрацыйны аркуш паперы наклеены 8-ы аркуш (адваротнай стронкай) і наступны аркуш — першай старонкай. Кніжныя рэстаўратары зь Пецярбургу й Менску, якім я паказаў гэты рэбус, пацьвярджаюць здагадку. Значыць, заклееныя, страчаныя, прапалі дзьве старонкі ўнікальнейшага гістарычнага дакумэнту? Хто ж і калі іх чытаў і чаму заклеіў? Што там напісана ды намалявана?

Выкажу здагадку.

Якраз на першай старонцы 8-га аркуша пачынаецца аповед пра адзін з самых цьмяных, спрэчных і да канца не зразумелых эпізодаў расейскай гісторыі, а менавіта — пра запрашэньне варагаў на Русь.

Склеіў старонкі, хутчэй за ўсё, расейскі «вучоны»-патрыёт, якому вельмі не спадабаўся іх зьмест. Ня трэба забываць, што ў XVIII ст., калі рукапіс трапіў у Пецярбург, ужо складаўся славуты стэрэатып «трэцяга Рыму» і пераемнасьці паміж Кіеўскай Русьсю і Маскоўскай Расеяй.

Яшчэ пару аргумэнтаў на карысьць гэтай вэрсіі. У 1994 годзе было ажыцьцёўлена новае, каляровае, шыкоўнае выданьне гэтага летапісу. Сучасная апаратура і друкарская тэхніка дазволілі перадаць найдрабнейшыя рыскі і адценьні пажухлых балонкаў, паціямнелых, струхлелых краёў паперы, каляровых ілюстрацыяў. У многіх месцах праз рыхлую паперу відаць контуры малюнкаў з адваротнай старонкі, нават словы тэксту. На першай старонцы 8-га аркушу праступае малюнак, якога на адваротным баку няма. 1-я старонка адпавядае 2-й. Але гэта толькі на першы погляд. Рэстаўратары ці рэтушоры схалтурылі і пры сумяшчэньні контураў відаць мноства дробных несупадзеньняў.

У нашай нацыянальнай бібліятэцы (для зацікаўленых) ёсьць абодва факсымільныя выданьні — 1902 і 1994 г.

Рукапіс жа захоўваецца ў сэйфе ў службовым кабінэце дырэктара БАНу.

Гэта адзіны арыгінал т.зв. «рускага» летапісу, які дайшоў да нашых дзён.

Наколькі мне вядома, ніводзін сучасны беларускі гісторык (нават М.Улашчык) ня бачыў у вочы і, тым болей, не трымаў яго ў руках. А загадку можна разгадаць толькі такім спосабам.

Можа, каму з чытачоў удасца? Шчыра жадаю посьпеху.

**Уладзімер Крукоўскі**







*Вадзяныя знакі на паперы — бычыная галава з крыжам. Такая папера лілася на беларускіх папернях у XV ст.*

# У ПОШУКАХ ПРОДКАЎ БЕЛАРУСАЎ




*Археалёгія Беларусі: у 4 т. Т. 2. Жалезны век і раньняе сярэднявечча ( А.Егарэйчанка, В.Шадыра, В.Вяргей ды інш.; пад рэдакцыяй В.Шадыры, В.Вяргей. — Менск: «Беларуская навука», 1999. 502 с.: іл. ISBN 985-08-0089-5.*

Другі том новай «Археалёгіі Беларусі» мусіць зьмяніць ва ўжытку расейскамоўныя «Очерки по археологии Белоруссии» (2-ю палову 1-й часткі) з далёкага 1970 году. Посьпехі нашае археалёгіі відавочныя, прынамсі, тэкст вырас у памерах у 4 разы. А калі ўзяць ня толькі памеры?

У кнізе 1999 году ў параўнаньні з папярэдняй вылучаны некалькі новых культур у дадатак да ўсім вядомых (мілаградзкай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі ды інш.) Вось, зьявіўся разьдзел пра вяльбарскую культуру. Яе вельмі не любілі раней, імкнуліся не заўважаць. На Берасьцейшчыне ёсьць некалькі магільнікаў і паселішчаў носьбітаў гэтае культуры — германскіх плямёнаў готаў і гепідаў, калі яны йшлі зь берагоў халоднай Балтыкі да цёплага Чорнага мора і па дарозе завіталі ў Заходняе Палесьсе. Сьцьвярджаецца нават, што сьляды вяльбарскага насельніцтва (чытай — германцаў) захаваліся ў этнаніміі заходняга Палесься — гэта пра мясцовы назоў «гідуны». Аўтары кнігі чамусьці не прыгадалі назву беларусаў з боку літоўцаў — «гуды», здаецца, таксама ад «готаў».

Зьявіліся разьдзелы пра славянскія культуры кшталту Прагі-Карчака (у кнізе чамусьці «тыпу Прагі-Карчак») і тыпу Лукі-Райкавецкай, раней для іх не было агульнапрынятых назваў. «Позьні этап зарубінецкай культуры» перахрысьцілі ў звычайную цяпер «кіеўскую культуру». Вылучаны і акрэсьлены банцараўская і калочынская культуры. Не пашанцавала ў кнізе «грунтавым магільнікам тыпу Нача» (трэба «Начы»). Гэтыя загадкавыя для недасьледчаных аб'екты тройчы мімаходзь успамінаюцца ў тэксьце, а вось іх характарыстыка некуды зьнікла. Вылучэньня гэтай культуры мы пакуль не дачакаліся. Пачакаем яшчэ. Некалькі разоў упамінаецца славянска-роменска-боршчаўская культура VIII—X ст. Асобнага разьдзелу пра яе няма, але ж яе матэрыялы сустракаюцца, можа, на палове тэрыторыі Беларусі. Ці гэтая культура будзе схарактарызаваная ў наступным томе «Археалёгіі Беларусі», прысьвечаным позьняму сярэднявеччу?

Дарэчы, у гэтым томе мы маем справу з новай археалягічна-гістарычнай пэрыядызацыяй нашае мінуўшчыны. Ад XIII—XII ст. да Н.Х. і да IV—V ст. па Н.Х. — гэта для аўтараў жалезны век, ад V—VI ст. да VIII—IX ст. — гэта раньняе сярэднявечча. Як бачна, аўтары пачынаюць ад зьяўленьня жалеза на нашых землях і даводзяць да зьяўленьня першых вядомых у нас княстваў. Гэтыя дзьве даты абапіраюцца на мясцовы матэрыял. Прамежкавая дата — гэта эўрапейская дата сканчэньня антычнасьці і пачатку сярэдніх вякоў (476 год — канец Рымскае імпэрыі). Чаго вартая такая пэрыядызацыя, пакажа наступная дыскусія.

Эпоха жалезнага веку адметная перш за ўсё, канечне, зьяўленьнем самога жалеза, якое літаральна перавярнула сьвет. Мы самі яшчэ працягваем жыць у жалезным веку, як жартуюць археолягі. Нездарма аўтары пачынаюць гэты том нарысам пра мэталюргію жалеза. Але жалезны век цікавы і тым, што тады зьявіліся рэальныя зьвесткі пра этнічныя супольнасьці, што дайшлі да нашага часу, — балтаў і славянаў. Тэма этнічнае гісторыі заняла прыкметнае месца на старонках тому.

Жалезны век тым і адметны, што ў дачыненьні да яго можна гаварыць пра этнічную прыналежнасьць археалягічных культур. Да яго этнічная гісторыя вельмі цьмяная. Але і ў жалезным веку ня ўсё яшчэ зразумела. Пра мілаградзкую культуру (яе носьбітаў лічылі і славянамі, і балтамі) у кнізе зробленая выснова: «Трэба прызнаць «нацыянальнасьць» носьбітаў мілаградзкай культуры цалкам загадкаваю». Далей: «Пытаньне аб этнічнай прыналежнасьці носьбітаў зарубінецкай культуры застаецца адкрытым». Толькі ў дачыненьні да культуры штрыхаванай керамікі ды днепра-дзьвінскай культуры робіцца пэўныя высновы пра этнічную прыналежнасьць іх носьбітаў. Такім чынам, Беларусь усё ж была ў большасьці балцкай. Што вынікае з гэтага, пазначана на апошняй старонцы кнігі, так мовіць, у квінтэсэнцыі таго, чым цікавы для нас жалезны век: «Менавіта балцкі субстрат стаў тым фактарам, які вызначыў фармаваньне беларускага народу».

Кніга ў пэўнай меры адлюстравала ўмельства беларускіх археолягаў весьці пошукі вытокаў археалягічных культур. Гэта праблема з найважнейшых. І што бачым? Нічога новага не сказана пра паходжаньне мілаградзкай, зарубінецкай дый большасьці іншых культур. Яскравы штрых: пра паходжаньне культуры тыпу Прагі-Карчака выкладзены пункты гледжаньня двух напрамкаў — украінскага і расейскага (этнічны момант у кнізе нават падкрэсьлены). А свой, беларускі, погляд? Ці не адзіны А.Мядзьведзеў выказаў менавіта сваю думку пра паходжаньне культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Ці не таму, што дасьледчык яшчэ адносна малады і не баіцца памыліцца? Здаецца, справа і ва ўпэўненасьці ў сіле сваіх аргумэнтаў. Абцяжараны агульным прызнаньнем Г.Штыхаў таксама высунуў уласны погляд на паходжаньне так званых доўгіх курганоў — яны, напэўна, зарадзіліся ў Беларусі. Сярод істотных недахопаў трэба адзначыць, што тры мапы мілаградзкай культуры даволі значна розьняцца адна ад адной. Разьдзел пра днепра-дзьвінскую культуру ня мае нарысу гістарыяграфіі.

Прыемна бачыць у «гуманітарнай» кнізе рэзюмэ на ангельскай мове. Зьдзіўляе рэзюмэ па-расейску. Здаецца, гэта ці не адзіны выпадак у выданьнях з апошніх гадоў.

**Валеры Пазьнякоў**

# СТУДЭНТ

### *У «Анталёгію ўчынку»*

Першакурсьнік Б., камлюкаваты негаваркі вясковы хлопец, ужо паклаўся быў спаць, калі ў ягоны інтэрнацкі пакой заваліўся падпіты сусед-пяцікурсьнік са сваімі сябрукамі. Як гэта звычайна ў такіх выпадках бывае, адразу запалілася сьвятло, уключыўся магнітафон, гупнулі аб падлогу кнігі, што ляжалі на стале, зазьвінелі ў плястыкавай торбе бутэлькі. Аднак Б., які за паўгады жыцьця ў інтэрнаце яшчэ й не на такое нагледзеўся, даволі млява на ўсё гэта адрэагаваў: хіба што адвярнуўся да сьцяны ды ўкрыўся з галавою коўдрай — суседзі звычайна «малога» не чапалі. Было б так і на гэты раз, калі б аднаму з начных гасьцёў — Тхару (сваё сапраўднае імя гэты брыдкі фацэт з голенай галавой, які — у вольны ад навучаньня ва ўнівэрсытэце час — «трос» камэрцыйныя шапікі, згадваў хіба што зірнуўшы ў пашпарт, а пра іншых і казаць няма чаго — па-іншаму й ня клікалі) — не падалося абразьлівым тое, што нехта мае нахабства даваць храпака ў той час, калі ў гэтым памяшканьні знаходзіцца ён. Ад гучных прапановаў устаць дзеля ўдзелу ў сьціплай вячэры, падмацаваных інтэнсыўным сьцягваньнем коўдры і цэлым каскадам кухталёў, Б. абудзіўся, аднак замест таго, каб — як гэтага патрабаваў рэкеціpcкі этыкет — расчулена дзякаваць за такі надзвычайны гонар, паабяцаў Тхару прывесьці яго самога ў гарызантальнае становішча, калі ён не сунімецца. Ад гэткага нечаканага нахабства апошні, які нават да камэнданта дзьверы нагой адчыняў, толькі інтэнсыфікаваў свае спробы. Але ўжо ў наступны момант цяжкая хлебаробская далонь Б. легла на ягоны каціны тварык, і ўся Тхарова істота зьведала неперадавальных адчуваньняў, зьвязаных з палётам у паветры — у кірунку дзьвярэй. Разьятраны, ён схапіўся за сьцізорык-«матылёк», зь якім звычайна пантаваўся перад сябрамі, аднак, пабачыўшы, што ў адказ Б. нетаропка раскладае дзедаву небясьпечную брытву, палічыў за лепшае куляй вылецець на калідор, куды ягоныя дружбакі, яшчэ да пачатку інцыдэнту, падаліся паліць. Хеўра адзінагалосна вырашыла пакараць ня ў меру спрытнага «малога» фізычна.

Калі ж яны зь цьвёрдым намерам абяліць зьбэшчаны гонар таварыша зайшлі ў пакой і задалі Б. адвечнае, амаль гамлетаўскае пытаньне «Ты чаго, а?», апошні мог яшчэ выправіць сытуацыю, скарыстаўшыся з каноскага варыянту. Аднак, Б. вырашыў быць піянэрам-героем да канца. І дзеля гэтага выняў з тумбачкі на сьвет Божы абавязковы атрыбут піянэра-героя — самую сапраўдную гранату Ф-1, выторгнуў колца і, са словамі «Нам усім гамон!» (выраз падаецца ў памякчанай форме), кінуў яе пад ногі сваім старэйшым таварышам. Што там пачалося — можна сабе ўявіць, калі ўлічваць тое, што з усіх, хто на той час знаходзіўся ў пакоі, адзін толькі Б. ведаў, што гэта ўдала зроблены муляж...

У тлумачальнай запісцы на адрас дэканату Тхор, каб пазьбегнуць выключэньня, заклаў сваіх учорашніх сабутэльнікаў, якія, даведаўшыся пра гэта, добра яму надавалі і адабралі сьцізорык-«матылёк». А Б. набыў шырокую вядомасьць і надзвычайную папулярнасьць у межах N-нага факультэту N-най навучальнай установы. Нават учорашнія ворагі, якія, куляючыся адзін цераз аднаго, вылятталі з пакою ў тужлівым прадчуваньні выбуху, зараз ветліва зь ім здароўкаюцца.

**Ігар Няхведараў**



*...Значна прасьцей зрабіць лінію гарызонту, постаці — справа, постаці — зьлева. Правільная пэрспэктыва, лягічны сюжэт, анатамічны малюнак. Але наш час алягічны, сюррэалістычны, увесь на дысанансах. Таму ціхамірнасьць на палатне выглядае фальшыва.*
*Аляксей Марачкін*

Сто твораў беларускага мастацтва XX ст.

# Аляксей Марачкін. ПАЧВАРА НАД ВЁСКАЮ

Гэтае палатно ствралася цэлае дзесяцігодзьдзе, з 1975 па 1985 год. У гэты ж прамежак часу укладаюцца й асноўныя этапы станаўленьня стылю мастака Марачкіна.

Напрыканцы 70-х у нашае мастацтва прыйшло цэлае пакаленьне мастакоў, якое ўзяло на сябе ролю абуджальнікаў нацыянальнае сьведамасьці. Творчасьць тае плыні Валянцін Жданові у свой час трапна назваў «гуканьнем вясны». Адна з тагачасных работ Аляксея Марачкіна, 1976 году, гэтак і звалася — «Гуканьне вясны». Адвечны матыў пораў году й чалавечых узростаў, які гэтак любілі мастакі ад часоў Рэнэсансу, стаўся зусім новым для нашага мастацтва. Сам сюжэт быў і адкрыцьцём, і дэклярацыяй. Сябры й калегі, з кола Марачкіна, уводзілі цэлыя пласты новых сюжэтаў і вярталі забытыя. Пры тым гэта быў ужо ня проста «этнаграфізм», як у мастацтве іх папярэднікаў. Іхныя творы былі нацыянальнымі і формай, і зьместам. Гэта быў пошук незвычайнай жывой плястычнай мовы, якая мусіла б сьведчыць пра тое, што жывая сама беларушчына. З гэтага вынікалі шматлікія мастакоўскія экспэрымэнты. Марачкін, уражаны пісанымі палескімі диванамі, сам бярэцца за дываны. Затым працягвае пошук у «сарматызме», у клясычным беларускім мастацтве партрэту. Гэтак нараджалася найноўшая беларуская клясыка. Сёньня партрэты Вітаўта, Рагнеды, Гусоўскага, Дуніна-Марцінкевіча, І. Луцкевіча пэндзлю Марачкіна ўважаюцца за хрэстаматыйныя. А вось жа да таго часу, сумежжа 70-х і 80-х гадоў, гэтыя вобразы былі амаль забытыя ў культуры. Забытыя сьведама ў выніку сьведамае дзяржаўнае палітыкі. Таму за Марачкіным і ягонымі паплечнікамі трывала замацаваўся арэол нонканфармізму...

Напрыканцы 70-х Аляксей Марачкін піша ўвадначасьсе два палатны, што завуцца «Дарогі». На адным зь іх напісаны край старасьвецкага гасьцінца, нізкі кругавід, па-над якім лунаюць істужкі хмараў. Адзін за адным сыходзяць у бясконцасьць дарожныя слупы, адмяраючы прастору і час. Абок іх, нібы містычныя татэмныя слупы, крочаць жывыя дрэвы, урастаючы ў неба, цягнучы яго да зямлі. Другое палатно — дарога, што йдзе пад гару. Тыя ж вербы, але яшчэ прыхопленыя марозам. Ціш і ноч. У гэтага шляху канец невядомы. Зьнелюдзелы край. Абедзьве гэтыя карціны — сымбаль трывог і прадчуваньне пакутніцкай дарогі ў будучыню.

«Пачвара над вёскаю» таксама прасякнутая гэткім драматычным сьветаадчуваньнем. Гігацкае неба, у якім лунае жах. Жах пазачасовы і пазапрасторавы.

Шырака экспэрымэнтуючы ў розных кшталтах і жанрах, Марачкін тут абраў спэцыфічную плястычную форму. Нешта тут бярэцца з тых самых маляваных абаразоў альбо нават з бацька... Але перадусім згадваецца Стрэмінскі са сваім «унізмам». Нават тэхналягічна гэтае палатно Марачкіна падобнае да рэльефных кампазыцыяў Стрэмінскага паваенпае пары. Фарбы пакладзеныя шчыльна, аб'ёмна. Пісягі, выціснутыя з тубаў адразу на палатно, ствараюць дадатковую прастору, яшчэ адно вымярэньне. Месцамі вялікія плямы пакладзеныя густа й шырака, а побач амаль філігранна, графічна апрацаваныя дэталі. Гэткае канфліктнае, кантраснае спалучэньне тэхнікаў жывапісу будзіць пачуцьцё гледача гэтаксама рэзка. Перад вачыма — кульмінацыя сюжэту. Ён раскрываецца адразу. І пужае.

Над засьнежанай вёскаю, у якой не аціхла людзкое жыцьцё, што разам з каміновым дымам зьлятае на неба, завіс прывід. Дзіўныя абрысы гэтага паўпэрсанажу, недзе чалавекападобныя, недзе мэханістычныя, зь безьліччу парасткаў, шчупальцаў, антэнаў, гледзяцца суцэльным кашмарам. Ён і ёсьць сэнсавым цэнтрам кампазыцыі. Увасабленьне сусьветнага зла, якому няма назвы. Але ёсьць прычына — сам чалавек. Ён, які зьнявечыў, згвалціў, атруціў сваю зямлю.

Гэты твор напісаны ў халодных вельмі танах. Пераліўы сіняга, зялёнкавага й белага, у некаторых месцах толькі зьлёгку падкрэсьленыя цяплейшымі фарбамі. Праз тое холад становіцца вусьцішным.

Ці можа мастак прадбачыць будучыню? Пісанае гэтак доўга палатно, што ўвасобіла ў сабе ці ня самыя трагічныя пачуцьці творцы, было скончанае за год да Чарнобылю. Мастацтва ня можа зьмяніць сьвет. Але можа зьмяніць нас. Гледзячы сёньня на «Пачвару над вёскаю», мы ведаем, што мастакі маюць рацыю ў нашым сьвеце. Бо тое, што на гэтым палатне, — праўда.

*Сяргей Харэўскі*

**АЛЯКСЕЙ МАРАЧКІН** (10.03.1940, вёска Язёры, Чэрыкаўшчына) жывапісец, пэдагог. Закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага пэдагагічнага інстытуту. У 1972 годзе — Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладае тамсама.



Віктар МАРКАВЕЦ

# МАТАЦЫКЛЕТНЫЯ ВАНДРОЎКІ

Напярэдадні 60-годзьдзя майго даўняга сябра Аляксея Марачкіна зь цікавасьцю перачытваю старонкі сваіх запісаў, што рабіў у часе нашых супольных падарожжаў па Беларусі. Вось асобныя зь іх — зь лета 1979 году:

«Штуршок і асалоду ад падарожжа атрымалі ад таго моманту, калі пад час першай творчай паездкі ў Докшыцкі раён раптоўна і зь лёгкасьцю надумалі набыць ровары. Даведаліся, што гэты тавар можна знайсьці ў краме на станцыі Крулеўшчызна, і накіраваліся туды аўтобусам. Выкупілі першыя для сябе «транспартныя сродкі» і проста ад крамы пакацілі прасёлкамі, сьцежкамі, па квітнеючых лугах і палях, праз рамантычныя рэшткі фальваркаў і хутароў. Хаця першыя нашы вандроўкі былі кароткімі, і іх было няшмат, але менавіта яны натхнілі на больш сур'ёзныя экспэдыцыі».

«Вясна набірае сілу. Аляксей усё часьцей заводзіць размову пра будучае лета. Расказвае, як дрэнна езьдзіць аднаму і што было б добра для нас і найлепшым выхадам ладзіць вандроўкі разам».

«Марачкіну не цярпелася хутчэй набыць матацыклет. І вось, нарэшце, яго прывезьлі на двор майстэрні на вул.Дзімітрава, — упакаванага, абабітага рэйкамі. Гаварылі, што стаяў доўга пад небам, і гэта было бачна па налёце пылу і дзе-нідзе — іржаўчыне. Разьбіралі, чысьцілі, але так і не завялі — іскры не было. Цягнулі наверх у майстэрню. Прыйшлося дамаўляцца на заводзе пра гарантыйны рамонт. Я сваю тэхнічную праблему вырашыў праз мастака Генрыха Ціхановіча, які прадаў мне старую «Яву».



У майстэрні перад выправаю. А. Марачкін і В. Маркавец, 1979.

«Доўга абмяркоўвалі маршрут падарожжа. Вырашылі падацца на поўдзень, у бок Турава.

Гамонку пра гэтую вандроўку вялі па ўсім Менску. Ведалі, што мы зьбіраемся, спрачаліся — ці добра, што на матацыклетах, ці патрэбны намёт ды іншыя дробязі... Мабыць, самі мы так не хваляваліся, як клапаціліся пра нашу паездку знаёмыя ды сябры. У Саюзе мастакоў і ў Саюзе пісьменьнікаў вяліся спрэчкі вакол гэтай задумы. Саміх нас болей хвалявала, як будзе паводзіць сябе тэхніка, як прыстасуемся да яе і да дарогі, як будзем знаходзіць кантакты зь вясковымі людзьмі.

Напярэдадні паездкі начавалі ў майстэрні. Разьлічвалі ашчаджаць дзённы час ды як раней выехаць з гораду, пакуль найменшы рух. Доўгая падрыхтоўка засталася ззаду. Раніцай 19 ліпеня пачалася дарога».

«Даехалі да паромнай пераправы на Прыпяці. Было ўжо даволі позна. Насоўвалася чарговая навальніца і трэба было найхутчэй шукаць месца для стаянкі. Але, як на дзіва, берагі былі пустыя, і толькі рэдкія кусты расьлі на пяску. Не губляючы часу, памкнуліся да першай больш-менш прыдатнай мясьціны і хуценька пачалі ставіць намёт. Але хмара апярэдзіла нас, і завяршалі мы сваю працу пад зьлівай. Не было нават часу падрыхтаваць пляцоўку пад жытло ды стаянку для тэхнікі. Добра, што ў цэляфанавых пакетах тое-сёе захавалася сухім, каб пераапрануцца. А дождж ліў, і здавалася, што так можа працягвацца некалькі дзён. Як змаглі, уладкаваліся і неяк пераначавалі. Раніца адарыла нас цудоўным надвор'ем — сонцам і лёгкім ветрыкам. Знайшліся і дровы. Расклалі цяпельца і, карыстаючыся момантам, высушылі ўсё. Потым упакаваліся і рушылі далей. Праз Прыпяць перапраўляліся на пароме».

«Цікава было паглядзець Украіну. Заехалі ў Дубровіцу. Адразу ж, пераехаўшы мяжу, адчулі, што трапілі ў іншы край: усюды надпісы толькі на ўкраінскай мове, нават палі выглядаюць інакш, ды й расьліны іншыя — хмель, таполі...

Дубровіца нічым не адрозьніваецца ад шматлікіх беларускіх раённых цэнтраў. Можа толькі тым, што кідаецца ў вочы большая колькасьць розных плякатаў і іншай «нагляднай агітацыі». Ды яшчэ адчуваецца кантраст: з аднаго боку, чыста і дабрабытна, а з другога — страшэнная безгустоўшчына ва ўсім гэтым соцдызайне.

Доўга не затрымаліся, скіраваліся далей на Зарэчча. Адмовіліся ад раней задуманага пляну ехаць на Невель ды павярнулі на Беларусь... Як толькі збочылі з дарогі на прасёлак, адразу ж урэзаліся ў страшэнныя пяскі. Нашы перагружаныя машыны працавалі на ўсю моц. Шмат разоў давялося «купацца» ў сыпучым украінскім пяску».

«Сілы былі затрачаныя вялікія, але ўсё ж так-сяк патрапілі да вёскі, якая завецца Ладараж. Гэта самая што ні ёсьць глыбінная вёска, куды «цывілізацыя» яшчэ не дайшла. Зьдзіўляе ўсё — самі забудовы з магутнымі дахамі з асакі, пляніроўка забудоваў, буйная расьліннасьць. А галоўнае — шчырасьць, адкрытасьць людзей, якія адразу зьбіраюцца, убачыўшы новых людзей на вуліцы, зь цікавасьцю і вялікай прыязнасьцю размаўляюць, гатовыя паказаць і падзяліцца усім, што маюць».

«Шлях ляжаў у Багданава — да мясьціна Рушчыца. Гаспадар, у якога мы спыніліся, аказаўся цікавым чалавекам. Пры Польшчы ён меў уласны хутар, што стаяў за маёнткам Рушчыца, дзе цяпер засталася адзінокая йгруша. Дзядзька добра ведаў «паноў», пра якіх прыгожа апавядаў па-беларуску...



А. Марачкін з сялянкаю. Палесьсе, 1979.

навіны

## Марухін замест Воўчака

Нечарговы зьезд кінэматаграфістаў Беларусі прыняў адстаўку старшыні Саюзу Ігара Воўчака і абараў на гэтую пасаду кінаапэратара Юр'я Марухіна. Вядомы рэжысэр Вячаслаў Нікіфараў, нязгодны з гэтай кандыдатурай, заявіў пра свой выхад з Саюзу. Кінастудыя «Беларусьфільм» завінавацілася розным установам 30 мільёнаў дэнамінаваных рублёў, у тым ліку 13 мільёнаў — Міністэрству абароны (за дапамогу ў здымках «Моманту ісьціны» Міхаіла Пташука). Зьезд кінэматаграфістаў таксама вылучыў пяць народных дэпутатаў на Ўсебеларускі сход — сярод іх Тацяну Логінаву, Вячаслава Нікіфарава, Алега Белавусава.

## Памёр Капыловіч

Пайшоў з жыцьця маладэчанскі пісьменьнік Мікола Капыловіч. Прычына сьмерці — інфаркт, але, што дзіўна, Капыловіч раптоўна памёр таго самага дня, калі падпісаў дамову пра абмен сваёй аднапакаёўкі на значна горшую кватэру. Саюз пісьменьнікаў ня меў грошай на пахаваньне свайго сябра, адно даслаў жалобны вянок. Пахавалі пісьменьніка на сродкі гарвыканкаму і маладэчанскай суполкі ТБМ.

## Баразна — акадэмік

У Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва адчынілася выстава «Час белых ценяў», прысьвечаная апошняму канцлеру ВКЛ Яўхіму Храптовічу. Наладзіла выставу Беларуская Акадэмія Выяўленчага Мастацтва. У яе склад уваходзяць 22 акадэмікі. У сябры Акадэміі прынялі першага мастацтвазнаўцу — Міхала Баразну, даўнага сябра «НН».

**Юрась Барысевіч**

# «ПРАВІНЦЫЯ» ЗЬБІРАЕ СІЛЫ

Літаратурны сэмінар «Бязьмежжа» амаль штогод ладзіцца на Беласточчыне ў мястэчку Гайнаўка. Склікае яго Беларускі саюз у Польшчы. На сэмінарах абавязкова закладаюцца новыя выдавецкія праекты. Вынік папярэдніх сустрэч — кнігі Алеся Разанава «Zdobywcy» і Адама Глёбуса «Demonokameron» — па-польску.

Падчас чацьвертага «Бязьмежжа», якое адбывался 25—27 лютага, прэзэнтаваўся зборнік прозы Васіля Быкава «Сьцяна». Выдаўцом і тэхнічным рэдактарам кнігі выступіў Аляксандар Максімюк, а пераклалі тэксты на польскую Ян Максімюк і Чэслаў Сэнюх. Адбылася на сёлетнім «Бязьмежжы» і яшчэ адна прэзэнтацыя — кнігі выбранага паэткі Надзеі Артымовіч «Адплывае спакойнае неба». Зборнік выйшаў да адмысловага юбілею — трыццаць гадоў таму спн.Артымовіч упершыню пабачыла свой верш надрукаваным у беластоцкай «Ніве».

Не абышлося і без агучваньня чарговай ініцыятывы. Гэтым разам удзельнікі сэмінару абмеркавалі доўгатэрміновы праект: літаратурны часопіс, мэта якога — спрыяць літаратурнаму і культурнаму жыцьцю ў памежных этнічнабеларускіх рэгіёнах, у тым ліку на Віленшчыне, Смаленшчыне і Пскоўшчыне. Мяркуецца, што часопіс «Правінцыя» стане адным з самых шыкоўных беларускамоўных выданьняў — вялікага фармату, з каляровым друкам, на тарашкевіцы. У «Правінцыі» можна будзе прачытаць мастацкія творы, літаратура- і мастацтвазнаўчыя матар'ялы, інтэрвію зь дзеячамі культуры, расповеды пра жыцьцё глыбінкі. Рэдактарам выданьня прызначаны Аляксандар Максімюк, стыль-рэдактарам — Сяргей Шупа. Напачатку траўня зьбярэцца рэдкалегія часопіса і сфармуе першы нумар. Плянуецца, што пакуль «Правінцыя» будзе выходзіць як квартальнік.

**Алесь Аркуш**


Фота IREX-ProMedia

войска

# КВАДРАТНЫ СЬНЕГ

Вайсковае быцьцё перапоўненае рэчамі, якія чалавеку з цывільля падаюцца чыстым вар'яцтвам. Чалавецтва ля брамы ў XXI стагодзьдзе, а ў войску да гэтай пары выкарыстоўваюцца анучкі для ног замяж шкарпэтак. З анучкамі на нагах што і за мабільнасьць можа быць? Шкарпэткі, кажуць нам сэржанты, згодна з статутам недазволеныя. Замотваньне анучак мусіць займаць па 7 сэкундаў на кожную нагу. Рэальна цяпер ніхто за столькі не пасьпявае. Таму, акром замотваньня, існуе іншы спосаб адзяваньня анучак, званы «парашутам», — жаўнер папросту ўскоквае ў боты, на якіх накладзеныя анучкі. У кажным разе мазалі маладым забясьпечваюцца.

На дзень прымушаюць засьціляць ложак так, каб палоскі, што на адным з краёў сіняй коўдры, аказаліся ў галовах. У часе ж адыходу да сну гэтыя палоскі мусяць знаходзіцца ў нагах. Памылкі дапусьціць нельга, могуць пакараць. А на што патрэбныя тыя палоскі наагул?

У мыйні цячэ толькі халодная вада. Іншай не прадугледжана. У мыйні ж мядзяныя кранікі пастойна трацяць бляск. Адтварэньне бляску адбываецца праз дружнае націраньне кранікаў папругамі.

У войску, мабыць, чулі пра разнастайныя мыйныя рэчывы, але жаўнер чысьціць усё жоўтым пясочкам. Адылі эфэкту ладнага з гэтага, ясна, нямашака.

Зіма — нялюбая пара беларускіх жаўнераў; асабліва калі яна напаўная. Кожная завіруха — прадвесьце работаў па вычышчэньні прылеглай тэрыторыі. Апатэоз сьнегаачышчэньня — выпрастоўваньне сьнегу адкінутага на ўзбочыны. Яму адмыслова надаюцца абрысы прастакутніка. Квадратны сьнег — адна з самых пацешных бязглуздзіц.

Паленьне ў войску дазваляецца ў адмысловых альтанках, што завуцца курылкамі. Шарагоўцы кураць разам пасьля т.зв. «прыёму харчу». І ў курылцы мусяць тлуміцца ўсе, нат тыя, хто не паважае нікатыну. Для апошніх кожны «перапал», асабліва вечарком, прыносіць шмат «радасьці».

**Сяргей Балахонаў**

# З МАРАЧКІНЫМ

Праз дарогу ад агульных могілак — асобныя, Рушчыцаў. Найбольшы помнік — бацьку мастака. Сам творца пахаваны побач з жонкай. Помнік зрабілі ў Вільні і паставілі зусім нядаўна. Атрымалася вельмі сьціпла. Надпіс папольску: «Мастак, прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту Фэрдынанд Рушчыц». Гаспадар расказваў, што магілу муравалі ў выглядзе склепа. Труну ставілі на падстаўцы, вольна. Потым замуравалі і засыпалі зямлёй.

Ад фальварку засталася толькі стайня — вельмі прасторная забудова, дзе і цяпер трымаюць коней. На месцы палацу цяпер толькі ўзгоркі бітае цэглы.

Адпачылі на сене, а самай раніцай пачалі зьбірацца ў Вішнева, бо чулі пра ксяндза Чарняўскага, пра ягоныя беларускія пропаведзі. Хацелася ўсё гэта пабачыць, бо якраз павінна была адбыцца служба».

Працяг вандроўкі, пасьля невялікага перапынку, адбываўся на Віцебшчыне, па мясьцінах Язэпа Драздовіча. На сустрэчу з Аляксеем у Барсукі я дабіраўся з Докшыц праз Глыбокае і Лужкі:

«Уразілі Лужкі, дзе рака Мнюта ўтварае прыгожы рэльеф мясцовасьці, і над усім уздымаюцца муры храмаў».

«За Лужкамі, дзесьці бліжэй да лесу, нешта гарэла. Высока шугала полымя і валіў дым. Каб паехаў туды, дык напэўна б сустрэўся з Аляксеем там, на пажары (гарэў хлеў у вёсцы, праз раку ад іхных Барсукоў), але сьцежка вывела мяне да кладкі праз раку, дзе адразу ж убачыў на другім беразе Ігара, сына Аляксея. Пры яго дапамозе перацягнулі маю тэхніку праз Мнюту па вузенькай і зыбкай кладцы, на якой хапала месца толькі для колаў. Стаяць ужо не было дзе, таму хлопец сядзеў і кіраваў, а я яго падштурхоўваў. Адразу ж на беразе паўстала ідылічная сцэна — Марачкіны пасьвяць каровы. Аляксей, убачыўшы дым, пабег на пажар, а Ірына (жонка яго) засталася на лузе. Падаліся і мы ў той бок, але ўжо было бачна, што там усё скончылася. Вярнуліся. Неўзабаве на беразе сабралася ўся сям'я. Бацька Ірыны прывёў на луг каня. А потым і маці прыйшла даіць карову. Зьявіўся Аляксей — увесь перапэцканы сажай і мокры. Рэчку пераплываў у адзеньні. Калі сьпяшаўся на пажар».


На пароме. Палесьсе, 1979.


Сярод палешукоў. 1979.

«У пошуках вёскі Лясьціны патрапілі ў невялічкую вёсачку Азэту, дзе ўсё захавалася спрадвеку — і саламяныя дахі, і спосаб працы — бо і саху тут знайшлі, і драўляную барану.

Маладая яшчэ на выгляд кабета ткала цудоўныя па тэхніцы выкананьня кілімы (тут іх, дарэчы, так называюць) — сапраўдныя габэлены. Стаяў шырокі станок, шырэй чым паўтары мэтры: на ім распачатая праца. Майстрыца, быццам ведаючы сабе кошт, трымалася з гонарам. Тут жа зьявіўся гаспадар — сухаваты, падцягнуты дзед. Раней быў у іх дыван Драздовіча. Але калі наткала сваіх, а той састарэў, яго зьнішчылі. Жанчына павяла нас да суседкі, і тая выцягнула два кавалкі (валяліся дзесьці на печы) цудоўнага дывана Драздовіча з арыгінальнымі малюнкамі — млын, вогнішча, коні, месяц».

«Па дарозе на Браслаў спыніліся ля апусьцелага хутару. Калі ехалі па шашы, спадзяваліся перачакаваць на якім-небудзь закінутым хутары, але калі зайшлі ў хату, дык адразу настрой зьмяніўся. Апанавала адчуваньне нейкай насьцярожанасьці і няўтульнай патаемнасьці... Захацелася выскачыць вонкі. І сапраўды, прыемна было на полі, дзе адразу зьнікла ўнутраная напружанасьць. Лепей было начаваць дзе пад дрэвамі ці ў купе саломы, чым у «цывілізаванай» пакінутай хаце. На панадворку стаяла некалькі яблынь. Ніхто не чапаў яблыкаў, і яны маляўніча абсыпалі дрэвы і зямлю. Паднялі некалькі чырвоных, салодкіх яблычкаў, якія добра прыдаліся, бо давялося імі вячэраць».

«Вечарэла, калі прыехалі ў Іказьнь. Велічны касьцёл і царква надалі прыгожы выгляд мястэчку. Але гэта здаля... Зблізу іншае ўражаньне — нейкая неарганізаванасьць цяперашняга жыцьця — сьмецьце і тлум, запушчанасьць ва ўсім. Зблізу касьцёл падаўся яшчэ больш велічным, і на гэтым фоне яшчэ больш «рэзалі вока» яго пашкоджаньні ды недагледжанасьць. Абышлі храм навокал. За мурамі, на зялёнай траве, бы насьмешка над намі, ляжыць маляваны дыван з кветкамі на чорным фоне. Ляжаў ён тут даўно, бо трава пад ім ужо зжаўцела. Лёс бы спэцыяльна падкінуў нам гэтага прыгажуна, бы ўхваляючы наш занятак і пошукі. Убачылася нам у гэтай прыгодзе штосьці знакавае».

«Выехаў з Докшыц у Барсукі. Не хацелася траціць дзённы час, таму разьлічваў прыехаць раней. На гэты раз ужо па знаёмых сьцежках кіраваў да вёскі не праз кладку, а па дарозе. Не даехаўшы дзесьці з кілямэтар, убачыў Аляксея. Ён касіў канюшыну. Спыняюся. Скідаю дарожнае адзеньне, бо стала даволі горача. Знайшлася якраз яшчэ адна каса. З палову гадзіны касілі разам. Не далі скончыць гэтую прыемную справу пчолы. Сонца прыпякло, а заставалася дакасіць маленькі лапік якраз насупраць іх домікаў. Ды і самі касцы, чым далей праца і мацней сонца, тым больш апацелыя і кудлатыя. А пчолы так і лезуць у валасы, не даючы і моманту супакою. Выпілі малака, якое тут вельмі смачнае і духмянае».

З тых даўніх часоў засталіся прыемныя ўспаміны. Для нас абодвух тыя вандроўкі далі штосьці сутнаснае, неад'емнае, незабыўнае.

*Фота аўтара*



Алесь Пушкін «на земях рускіх»

# АБ МЯСТОХ КРЫВІЦКІХ ПРАЎДА...

*Дасьледаваньне старадаўніх і малавядомых старонак айчыннае гісторыі па-ранейшаму выклікае цікавасьць у шырокіх колах спэцыялістаў і аматараў. Сьведчаньне гэтаму — шырокі розгалас на нашае дасьледаваньне «Аб мястох крывіцкіх праўда...»*

*Для ўсіх зацікаўленых мы паведамляем, што аўтэнтычныя беларускія дасьледзіны айчыннай тапанімікі працягваюцца. Вось вэрсіі новыя.*

## БАБРУЙСК

Кажуць, што назва гораду ідзе здавён. Аднак найноўшыя дасьледаваньні даказваюць, што слова «Бабруйск» мае досыць нядаўняе паходжаньне.

Зараз ужо можна лічыць даказаным фактам, што назва гораду йдзе ад таго моманту, як сюды завітаў маляр з Бабру Алесь Пушкін. Ён хадзіў па горадзе й зьдзіўляўся:

— Глянь ты, царква як у нас, у Бабры! І людзі як у Бабры! Бач ты, і хаты як у Бабры! А можа, я ў Бабры?

Ня ў змозе вызначыць месца свайго знаходжаньня пасьля чарговага гэпэнінгу, Алесь Пушкін злавіў абарыгена:

— А скажэце мне, калі ласка, ці я не ў Бабры?

Тубыльцам так спадабаўся анэкдот, што яны й горад перайменавалі ў Бабруйск.

## ПІНСК, БЕРАСЬЦЕ

Узяцца за этымалёгію назвы Пінску было нялёгка. Каб чытачам была больш уцямнай хада дасьледніцкіх развагаў, мы падаем ніжэй дыялёг аўтараў.

— Скажыце, шаноўны калега, што вы ведаеце пра назоў Пінску?

— Ну як жа! Пінск спрадвеку называўся Пенскам, як Мінск — Менскам.

— Няўжо? А што, ён узьнік на месцы, дзе было шмат пнёў? Ці ягоныя жыхары былі... інтэлектуаламі?

— Што вы, што вы, шаноўны калега! Пенск названы ад марской пены, якая падала з хваляў на тутэйшыя марскія берагі.

— Адкуль там марскія берагі, на Палесьсі?

— А Герадотава мора? Ці вы, калега, нічога ня чулі пра яго? Яшчэ ж наш клясык...

— Каторы?

— Купала... Дык вось, яшчэ ён казаў, што нашае мора ворагі закідалі гразюкай. Вось і атрымалася Пінскае балота. Дарэчы, з тым самым Герадотавым морам злучаны й назоў Берасьця. У сапраўднасьці горад называўся Берагсьце, бо мясьціўся на марскім беразе. Аднак літара «г» зь цягам часу выпала. Ну, ня мне ж вам тлумачыць законы мовы...

## ВАЛОЖЫН, РАКАЎ, ЛАГОЙСК

Легенду пра беларускую Пасыфаю праз стагодзьдзі пранесьлі жыхары Валожына. На падставе яе навукоўцы атаесамляюць тутэйшых жыхароў з нашчадкамі слыннае крыта-мікенскае цывілізацыі. Праўда, самі абарыгены ня лічаць сябе нашчадкамі быка. Пардон, вала. Вядома, якія ж у вала нашчадкі?..

Сур'ёзныя гісторыка-этымалягічныя досьледы пацьвярджаюць слушнасьць гэтае тэорыі. Нездарма ж недалёка Валожыну месьцяцца Лагойск, дзе палягалі вол з тутэйшай Пасыфаяй, і Ракаў, дзе... пардон, пардон...

## ДУБРОЎНА

Гэтае мястэчка спрадвеку славілася кемнасьцяй сваіх жыхароў. Навакольнае насельніцтва так і называла іх — ду... ду... Думанькі, словам.

Праўда, спаміж некаторых навукоўцаў мае папулярнасьць вэрсія, што ў Дуброўне ад даўна гналі адмысловы мясцовы пяршак — дуброўку. Гэты трунак, маўляў, і даў назоў гораду.

## ПОЛАЦАК

Тут усё ясна. Горад назвалі ў гонар прозьвішчаў славутых ягоных ураджэнцаў — Эўфрасіньні Полацкай і Сімяона Полацкага.

## БАРЫСАЎ

Назоў гэтага гораду дагэтуль ёсьць загадкай для шматлікіх дасьледчыкаў. Якога менавіта Барыса ўшаноўвалі продкі? Варыянтаў процьма.

Каб пазьбегнуць непатрэбнае блытаніны й ня надта ўводзіць спэцыялістаў у зваду, была прынятая пастанова пра перайменаваньне гораду. Ініцыятыва была адразу ж падтрыманая шырокімі масамі. «Белы легіён», «Край» і Беларуская партыя Сержука... (даруйце — Свабоды) прапанавалі новую назву — Рагулёўск, а ў гонар гэтага — яшчэ й новы гатунак піва «Рагулёўскае». Сп. Э.Тарлецкі выказаў меркаваньне, што яго арганізацыя падтрымае назоў Майсееўск. А з амбасады аднае суседняе краіны (якой канкрэтна — пакуль таямніца) прыйшло пажаданьне, каб гораду надалі імя Ельцынск.

Камісія па перайменаваньні працягвае прымаць прапановы да 1 красавіка бягучага году.

**Спрэс Маркальскі, Жбан Няўмера**

## паштовая скрынка

**Алесю С. з Воршы.** *На тэму БНФ і КГБ «Наша Ніва» пісала ня раз. Аднак, аналізуючы перадгісторыю і ролю чэкістаў у нядаўнім расколе Фронту, трэба кожную зьвестку і кожную выснову падмацоўваць конкрэтнымі фактамі, прозьвішчамі і датамі. Інакш артыкул больш падобны да апавяданьня. Дапрацуйце, калі ласка. Праўды зашмат не бывае.*

**Міхалу Шмерлінгу, Сяргею Пруднікаву, Міхасю Цыбульскаму, Андрэю Захаранку, Івану Чапеку, Алесю Крыштаповічу, Цімоху Ізотаву.** *Калі ласка, зьвярніцеся ў рэдакцыю па ганарар або дашліце свае поўныя паштовыя адрасы і імёны па бацьку, каб мы маглі пераказаць ганарар поштаю.*

**Янку Ц. зь Менску.** *Сьмеючыся, мы ачышчаемся. А ці чыталі Вы «Аб багох крывіцкіх праўда» Сяргея Хмары (Сяргея Сіняка)? Пачытайце, калі ласка, гэтую брашурку — яна ёсьць у беларускай залі Нацыянальнай бібліятэкі. Наконт адстаўкі Дэніэла Спэкгарда: мы не памыляліся.*

**Пятру К. з-пад Берасьця.** *Адрас рэдакцыі «Нашай Свабоды»: Менск 220123, а/с 103.*

**С. зь Віцебску.** *Калі ў нас стане яшчэ прыкладна на 700 падпісчыкаў болей, мы зможам перайсьці на 16 старонак штотыднёва.*

**Сержуку К. з Гомеля.** *Вечарына вечарынай, але ці было на ёй што нязвыклае, чаго не было ў іншых гарадах на іншых вечарынах?*



## прыватныя абвесткі

### вітаньні

З Днём народзінаў віншуем **татку Кастуся і маму Іру**. Жыве вольная Беларусь, жыве родны Браслаў! Дзеці

**Мілыя жанчыны**, з радасьцю віншую вас з хуткім сьвятам. Жывіце ў шчасьці і ў радасьці! Пятро

Віншую сваіх **каханых Сержука, Максіма, Іначку** і усіх незалежнікаў з надыходам вясны. Жывем! Валянцінка

**Алеська!** Сонейка маё любае, я цябе кахаю! Твой Паляшук

**Ірынка Самойлава** зь Берасьця! Прывітаньне, а я яшчэ памятаю. Здагадайся з трох разоў, хто я такі. Калі хочаш, патэлефануй мне, я чакаю. Сябрук

**Алка Сушко!** Гэта я. Як там у цябе справы? Ці спадабаўся табе мой падарунак? Сяржук

### запрашэньні

**На адрасе** http://draniki.com/demo адчыніўся сайт для аматараў масавых мерапрыемстваў «Дэманстрацыя». Ласкава прапануем наведаць

**Далучайцеся,** каб рыхтавацца. Мы — ня здрадзім. **Край** 220037, Менск, а/с 49

### кантакты

**Маладая дзяўчына-нацыяналістка** шукае кантактаў з творчымі людзьмі. 220086, Славінскага 21-35, Ганна

**Šukaju zacikaŭlenych** chłapcoŭ i dziaŭčat dziela sumiesnaj vandroŭki pa Bielarusi ŭletku. Mahiloŭ, da zapatrabavańnia; pašpart KB 0306121

**Салейчуку Яўгену** зь Пінску просьба зьвязацца зь Віталём Супрановічам

**Беларускі нацыяналіст** мае права змагацца і перамагаць. Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў-рэвалюцыянэраў «Агмень», 220103, а/с 6

**Нацыяналісты,** барацьбіты за вольную Бацькаўшчыну, якія не жадаюць жыць у калёніі. Адгукніцеся Раману. Менск, 220093, Альшэўскага, 30-112

**Шукаю сяброў і сяброваак-аднадумцаў**, якія жадаюць жыць у вольнай, незалежнай, роднай краіне — БЕЛАРУСІ. 223710, Салігорск, Багамолава 24-209

**Пазнаёмлюся** з(ь) (не)прывабнаю дзяўчынаю (16-30 гадоў), што ўмее адкаркоўваць піва зубамі. Сэксуальна заклапочаных просьба не турбавацца. Т.: 262-30-83, Крывіч

**Дзе ж вы, ваяры-Палешукі?** Вас чакае Берасьцейскі зьвяз «Краю». 224020, Берасьце-20, а/с 19

**Сьвядомыя беларусы з Лунінца**, адгукніцеся. 224020, Берасьце-20, а/с 19

### ідэі

**Жыцьцё** ня любіць згорбленых, яно спрыяе сьмеласьці. Устаньце з кален, беларусы!



**Як на нашай старане** Лепей не кранай мяне, Бо вазьму ў рукі зброю Ды ў зямлю цябе зарою! Абдула Аджалан

**Кахаць** — ня значыць глядзець адзін на аднаго. Кахаць — разам глядзець у адным кірунку. А.дэ Сэнт-Экзюпэры

**Найгалоўнае ў жыцьці** — стварыць сабе прыстанак трэба, каб у канцы, як і ў пачатку, нас вынасіла жанчына. Ф.Марыяк

### кнігі, пэрыёдыкі

Прадам **выбраныя творы К.Крапівы** у 2 тамох (Менск: Маст. літ., 1986). Т.: 258-43-54

**Газэта «Верас»** — інфармацыйны дайджэст на 8 старонках. Замаўляйце: Віцебск, 210032, а/с 29-А; капэрта, шукаем аўтараў. gazeta@veras.fzs.com.

Наш прынцып: прасьцей ставіцца да самых сябе й да навакольных. **«Радавая Беларусь»**. Чытайце № 1, 2000 (лютаўскі нумар). Ад Вас — капэрта са зв/а + 50 р. А/с 469, 220030, Менск

Вы нам — капэрту і 30 р. Мы вам нумар **«Нашай Нівы іcьцiннай»**. А/с 169, 220030, Менск

Кветка нац.-дэмакратыі — **газэта «РУХ»**. Беларускі погляд на сьвет Вы атрымаеце, калі дашлеце чыстую капэрту са зв/а. 210001, Віцебск-1, а/с 40

Вам цікава, што адбываецца ў сьвеце? Чытайце «Совбелію». **Вам цікава, чаму? — чытайце «Gardarika»!**

Краіна на ростанях — шукайма шляхоў разам! **Газэта «Gardarika»** — аналітычнасьць, грунтоўнасьць, рознабаковасьць. У спрэчках нараджаецца ісьціна. 220082, Менск, **а/с 188**

Да 20 красавіка улучна прымаюцца замовы ў памеры 600 руб. на **зборнік-маніфэст** Геапалітыкі Новых Правых **«Тварам да Поўначы»**. 220086, а/с 121

Выйшаў **другі нумар газэты «Голас Краю»**. Замаўляйце. Прапануем брашуры: «Абэцэда беларускага нацыяналізму», «Беларуская партызанка» Сяргея Ярша, «Нацыяналізм у сьвеце» (ч.1), «Беларускім героям — народную памяць». 220037, Менск, **а/с 49**

### музыка, відэа, тэле

**Спадарожнікавая сыстэма** + цюнэр «Амстрад». Д.У.+ талерка 1,7 м. (у Берасьці). Т.: (0162) 24-54-56

**Новыя пункты продажу** беларускіх касэт: шапік ля крамы «Піянэр» (Чыжоўка) — аўдыё, відэа; 2-гі паверх унівэрмагу «Беларусь» — відэа; кніжны кірмаш за к/з «Менск» (ст.м. Першамайская); ст.м. Інстытут Культуры

**Відэа па-беларуску**: продаж, запіс, пракат. Бясплатны каталёг (ад Вас — капэрта). Гуртам (ад 5 замоваў) — зьніжка. 220107, а/с 150. Т.: 213-43-52, 240-78-01

Рыхтуецца **пераклад фільма «Матрыца»** (Matrix). Дасылайце заяўкі: 220107, а/с 150 (з пазнакай: «Матрыца)

**Беларуская музыка ў Інтэрнэт**: БМА group: http://fly.to/bmagroup; NRM: http://fly.to/nrm; ULIS: http://fly.to/ulis; KRIWI: http://fly.to; Narodny Albom://fly.to/nalbom/ ; ZNICH: members.xoom.com/Znich

Маладыя Фронт запрашае **аматараў беларускай музыкі** (NRM, Нейродюбель, Палац, Крыві, Новае Неба і інш.) на свае паседжаньні штачацьвер а 19 гадзіне: Менск, Варвашэні, 8. Т.: 284-50-12. Тэлефануйце, прыходзьце, пішыце

**Беларускія гурты**, ахвотныя прапанаваць свае песьні на CD-зборнік «Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва», могуць зьвяртацца: 220085, Менск, а/с 5, т.: 249-08-88. Шукаем партнэраў у выданьні CD

### праца

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Могуць усе! Прыбытак ад 200 у.а. Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**В/а праца**. Ад Вас — капэрта са зв/а. 220082, Менск, а/с 250

Шаноўнага спадара
**АЛІЗАРЧЫКА АЛЯКСАНДРА**
віншуем з Днём народзінаў і зычым яму:

***Здароўя ў кожны орган,***
***Грошай у кожную кішэню***
***І шчасьця ў кожны кут.***
*Калегі*


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.

**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**

**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3801. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 0:23, 06.03.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1128. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Бабруйская, 19/36